*Прывітанне, сябры!*

*Мы рады зноў сустрэцца з вамі і разам адправіцца ў вандроўку па дарозе новага нумара часопіса ALOVAK. Для нас гэты шлях ужо пройдзены і вывучаны, бо мы старанна даследавалі кожную яго сцежку, купіну. Мы нават трохі вам зайздросцім – у вас усё гэта яшчэ наперадзе!*

*Вас чакае падарожжа па замшэлых сцяжынках да мяккіх тэкстыльных кітоў і бегемотаў, запрашэнне на гарбату з варэннем да дружнай сям'і, наведванне ганчарнага пленэра, сустрэча з племенем кунаў, пачастунак фіялетавым марожаным... І, вядома, традыцыйна шмат творчасці, малявання, рукадзелля, удзел у конкурсах.*

*Збірайцеся ў дарогу, сябры!*
*Час адпраўлення: непасрэдна цяпер.*

*Ваша каманда ALOVAK*

# КАМАНДА ALOVAK:

## *СТВАРАЛЬНІКІ ЧАСОПІСА:*

Ірына БЕЛЬСКАЯ



Кацярына БУТО



## *РЭДАКТАРЫ:*

Надзея ЗІМІРАВА



Вольга БАРЫСЕНКА



Аксана СЕМЯНЬКЕВІЧ



## *НАД НУМАРАМ ТАКСАМА ПРАЦАВАЛІ:*

Ірына АГЕЙЧЫК
*аўтар*



Іна АНІКЕЕВА
*ілюстратар*



Вікторыя АНЖЭ
*аўтар*



Яна БУНЦЭВІЧ
*ілюстратар*



Юлія БАГДАНЧЫК
*аўтар*



Дар’я УЛАСАВА
*ілюстратар*



Святлана ВАРАШЫЛАВА
*фатограф*



Наста ГЛУШКО
*аўтар*



Таццяна ГРОСЛЕР
*аўтар, перакладчык*



Яна ЯФРЭМАВА
*фатограф*



Марыя КЛІМЕНЦЬЕВА
*аўтар*



Кацярына КАРЭНЮГІНА
*аўтар*



Валянціна КАРЖЭВІЧ
*аўтар*



Аліна КРУСС
*ілюстратар*



Юля ПРАШКОВІЧ
*аўтар*



Марыя СОНГАЛЬ
*фатограф*



Ксенія САСНІНА
*аўтар*



Юлія ТРАФІМЕНКА
*дэкаратар*



Таццяна ХЛАПКОВА
*аўтар*



Кацярына ЧАРНЯЎСКАЯ
*аўтар*



АЛОВАК
*журналіст*



*Хочаце прымаць удзел у стварэнні часопіса ALOVAK?
Раскажыце нам пра сябе на alovakmag@gmail.com

Рэклама ў часопісе ALOVAK
Мы разгледзім вашы заяўкі на alovakmag@gmail.com

Змест














# МОХ

*Мох не толькі заварожвае сваёй прыгажосцю ўсіх аматараў прыроды, але і натхняе творчых людзей на стварэнне ўнікальных і экалагічных вырабаў. Упэўніцеся самі, азнаёміўшыся з нашай падборкай ідэй.*

# 1 ПТУШКА З ІМХУ

Такая птушачка на палачцы можа ўпрыгожыць любы вазон альбо стаць арыгінальным упрыгажэннем пры сервіроўцы стала.
З гафракардону выражце сілуэт птушкі. Раім прасачыць, каб гафрыраванне размяркоўвалася вертыкальна, гэта дазволіць потым лёгка насадзіць птушку на палачку. Змажце адзін бок клеем, прыклейце мох, прыціскаючы яго і крыху падварочваючы на іншы бок. Пасля нанясіце клей на другі бок і таксама прыцісніце мох з усіх бакоў. Дзюбку абматайце ільняным шпагатам, папярэдне змазаўшы яго клеем. Насадзіце птушку на палачку, завяжыце банцік.

Фота: Ірына Бельская





## 2 МОХ ДЛЯ ЎПАКОЎКІ

Мох вельмі прыгожы матэрыял – ён будзе незвычайна і высакародна глядзецца ў аздабленні падарункавай упакоўкі. Проста прывяжыце кавалачак імху да скрыні, пры жаданні дадайце да кампазіцыі галінкі альбо шышкі. А яшчэ можна выкарыстоўваць мох у якасці мяккай падушачкі для ўпрыгажэнняў.

Фота: Ірына Бельская



# 3 ВАЗОНЧЫК З ІМХУ

Абгарніце вазончык з кветкамі альбо звычайную шклянку мохам і льняным шпагатам, і ў вас атрымаецца прыгожая аснова для свежых ці засохлых раслінаў.

Фота: Ірына Бельская





# 4 БРОШКА І КАЛЬЕ

Звычайным нажом выражце з кары форму, што нагадвае гаршчок для кветак. У таўшчыні кары зверху зрабіце паглыбленне, налейце ў яго крыху клею і асцярожна ўстаўце і прыцісніце мох. Пасля высыхання клею прычапіце аснову для брошкі, а для кальe ўстаўце з бакоў "гаршчка" провалачныя пяцелькі (з карой гэта вельмі лёгка зрабіць), замацуйце ланцужок ці шнурочак. Пры жаданні можна брызнуць на выраб матавы лак з балончыка з вялікай адлегласці.

Фота: Ірына Бельская



## 5 МОХ НА ГАЛАВЕ

Такой арыгінальнай фрызурай вы ажывіце любую карцінку. Апроч імху вам спатрэбяцца: рамка, шчыльная папера, каляровыя алоўкі (маркеры, фарбы і пад.). Кавалачак імху папырскайце вадой і прапрасуйце праз паперу. У выніку мох стане практычна пляскатым і будзе выдатна глядзецца пад шклом. Атрыманы мох размяркуйце на верхняй частцы аркуша паперы, дамалюйце жыццярадаснага чалавечка, прыклейце мох і ўстаўце карцінку ў рамку.

**Звярніце ўвагу!**
У раздзеле "Карыснае" на нашым сайце alovakmag.by вы зможаце спампаваць і раздрукаваць некалькі малюнкаў з чалавечкамі ад мастачкі Ірыны Бельскай. А вам застанецца толькі прыклеіць мох!

Фота: Ірына Бельская



# 6 ДРЭЎЦА З ІМХУ

Каб зрабіць дрэўца з імху, вам спатрэбяцца:

- *кветкавы гаршчок ці любая іншая ёмістасць,*
- *галінка альбо любая палачка,*
- *пенапластавы шар,*
- *мох,*
- *гіпс.*

## 1. Ствол

Разводзім гіпс у цёплай вадзе да кансістэнцыі густой смятаны. Калі ў вас керамічны гаршчок, каб ён не лопнуў, неабходна паставіць распоркі з кардону перад заліўкай гіпсу. Для гэтага чатыры палоскі кардону раскладваем унутры гаршчка на чатыры бакі. Калі дно мае дзірачку, то закрываем яе знутры кавалачкам кардону. Ставім ствол дрэва ў гаршчок так, каб ён не дакранаўся да дна (трымаем на 0,5 см вышэй дна) і заліваем гіпсам. Раўняем ствол і чакаем, пакуль гіпс застыне.

## 2. Крона

Пенапластавы шар акуратна нанізваем на ствол. Можна крыху нанесці клею на месца насадкі, каб зафіксаваць шар у патрэбным становішчы. Дыяметр шара павінен быць крыху большы за дыяметр гаршчка, тады дрэва будзе глядзецца гарманічна.

## 3. Аздабленне кроны

Сухім імхом акуратна абклейваем шар пры дапамозе гарачага клею. Мох яшчэ можна замацаваць шпількамі з дроту. Дрот лепш выкарыстоўваць фларыстычны, ён зялёнага колеру і не будзе заўважны.

## 4. Дэкарыраванне

Прыклейваем кавалачкі моху па-над гіпсам у гаршчку вакол ствала. Можна дадаткова дэкарыраваць гаршчок і крону, але перабольшваць з гэтым не трэба. Калі пенапластавы шарык не полы ўнутры, то абклеіць яго мохам можна і перад насадкай на ствол.

**Маленькі сакрэт:** апырскайце крону дрэўца лакам для валасоў, каб мох не асыпаўся і лепей трымаўся, пры гэтым ён стане больш цёмнага колеру, так што не палохайцеся.

Дрэўца гатовае. Засталося пабудаваць дом і нарадзіць сына! :)

Тэкст: Кацярына Карэнюгіна
Фота: Ірына Бельская

**Карысная інфармацыя:**

*Кацярына Карэнюгіна, фларыст*
*vk.com/katariosflowers*



# МОХ-АРТ

Мастачка Таццяна Хлапкова валодае багатым уяўленнем і ў сваіх працах вынаходзіць цікавае прымяненне прыродным матэрыялам. Мох лёгка зрабіць часткай арт-аб'екту, палёт фантазіі тут нічым не абмяжоўваецца!

Фота: Таццяна Хлапкова
instagram.com/tkhlopkova






# КАКЕДАМА

**Какедама** – *дзіўная японская вынаходка. Пабачыўшы какедаму, у вас, пэўна, зламаецца стэрэатып, што пакаёвая расліна мусіць вырошчвацца ў гаршку. Мы правялі эксперымент, у выніку якога наша расліна прыжылася і цудоўна пачуваецца ў мохавым шарыку. А значыць, мы можам падзяліцца сваім досведам!*

**Каб стварыць какедаму нам спатрэбяцца:**

- *непатрабавальная расліна,*
- *грунт (зямля, торф, гліна),*
- *мох,*
- *ніткі.*

**1. Абкладваем** карані расліны вільготным імхом сфагнумам (прадаецца ў кветкавых магазінах). Асцярожна, імкнучыся не папсаваць карані, фіксуем мох баваўнянай ніткай. З цягам часу нітка згніе, а карані прыжывуцца і будуць утрымліваць шар.

**2. Змешваем** торф, зямлю і гліну ў суадносінах 2:1:1,5. У атрыманую сумесь уліваем ваду і перамешваем. Пры неабходнасці дадаем дадаткова гліну, каб атрымаўся ком, які трымае форму. Мы выкарыстоўвалі звычайную чырвоную гліну, але для какедамы ў нашых умовах раяць браць чорную касметычную.

**3. Абляпляем** нашай сумессю мох з каранямі, утвараючы шар. Як варыянт, спачатку можна сфармаваць шар, а затым, зрабіўшы ў ім паглыбленне, уставіць расліну з імхом, пасля чаго асцярожна заляпіць паглыбленні, каб захаваць форму.

**4. Прысыпаем** зверху шар сухою зямлёю, каб ён не быў дужа мокрым і не пэцкаў мох.

**5. Абмотваем** шар жывым (свежым) імхом, фіксуючы яго баваўнянаю ніткаю.

**6. Акуніце** шарык з раслінай у ёмістасць з вадою. Крыху патрымайце. Дастаньце і злёгку адцісніце ваду, пастаўце расліну на падстаўку (талерку). Такім чынам палівайце расліну па неабходнасці, а каб мох як мага даўжэй захоўваў сваю свежасць, перыядычна апрысквайце яго з пульверызатара.

**Цікава:** какедаму таксама называюць “вісячым садам”, бо шарык можна не толькі ставіць на падстаўку, але і падвешваць на лесцы (канешне, перад гэтым трэба даць сцякчы вадзе пасля паліву).

Няхай у вас усё атрымаецца!

Тэкст, фота: Ірына Бельская

# *каштоўны* МОХ



*Тэкст, фота: Святлана Лапіна*

*Шпацыруючы па лесе, я абавязкова назапашваюся мохам, лішайнікам і карою. Лес для мяне – гэта натхненне, глыток паветра, што асвяжае думкі і накіроўвае на з'яўленне новых ідэй. Так аднойчы нарадзілася цэлая калекцыя ўпрыгажэнняў пад назвай Mystery Forest.*

*Сярод маіх працаў упрыгажэнні з імхом займаюць асаблівае месца. Яны па-сапраўднаму самабытныя і ўнікальныя. Яны захоўваюць у сябе цэлы свет, які прыцягвае погляды і дазваляе зноў і зноў вышукваць мудрагелістыя перапляценні.*

## Мае парады пры працы з імхом:

**1.** Мох, які я выкарыстоўваю, трэба здымаць з кары дрэва, менавіта на дрэвах найчасцей сустракаюцца цікавыя і незвычайныя экзэмпляры насычанага зялёнага колеру.

**2.** Мох не патрабуе асаблівых умоваў захоўвання ці пэўных спосабаў высушвання. Калі вільготнасці шмат, раскладваю мох і некалькі дзён трымаю на сонцы. Вельмі істотна прасушыць мох, інакш пры кантакце са смалою ён пажаўцее.

**3.** Захоўваю мох у скрыні ў цёмным месцы, далей ад сонечных промняў, каб максімальна захаваць яго насычаны колер.

**4.** Пачынаючы працаваць, я дасканала адбіраю найбольш падыходзячыя экзэмпляры. Ачышчаю ад лішніх украпванняў і "купаю" ў разведзенай эпаксіднай смале. Пакідаю ў шклянцы на некалькі хвілінаў, каб усе бурбалкі паветра выйшлі вонкі, інакш яны могуць незваротна сапсаваць нарыхтоўку. Пасля гэтага можна перайсці да заліўкі молда (сіліконавай формы) і фарміравання кампазіцыі.

**5.** Пасля высыхання смалы, нарыхтоўка праходзіць 7-ступеневую шліфоўку (я гэта раблю ўласнаруч), а затым выніковую паліроўку.



## Эпаксідная смала. Лікбез

Эпаксідная смала з’яўляецца разнавіднасцю сінтэтычных смолаў. Шырока выкарыстоўваецца ў хатняй гаспадарцы і ў прамысловай вытворчасці. Магчымасці прымянення эпаксідных смолаў пастаянна пашыраюцца за кошт распрацоўкі новых складнікаў з палепшанымі характарыстыкамі. Мы пагаворым пра так званую ювелірную смалу, што прызначана для дэкаратыўных мэтаў, для стварэння ўпрыгажэнняў у тым ліку.

Ювелірная смала істотна адрозніваецца ад тэхнічнай. Яна абсалютна празрыстая і не мае яскрава выражанага паху. Час яе застывання значна большы, каля двух сутак. Такая смала меней таксічная. Таму раю не эканоміць, а працаваць з якаснымі матэрыяламі і берагчы здароўе!

Перш чым перайсці да працы з эпаксіднай смалой, трэба патрыхтаваць працоўнае месца:

- Памяшканне мусіць добра праветрывацца.
- Каб абараніць стол ад смалы, якая не адмываецца, накрыйце яго паперай для запякання альбо звычайным файлікам. Я выкарыстоўваю сіліконавы дыванок.
- Займейце пальчаткі і рэспіратар (у вадкім стане смала таксічная). Яшчэ вам спатрэбяцца пластыкавыя шкляначкі, аднаразовыя шпрыцы (2 шт.) і драўляная палачка (напрыклад, для сушы). Таксама падрыхтуйце сухія сурвэткі для выдалення лішкаў смалы.

**Перад пачаткам працы ўважліва прачытайце інструкцыю па прымяненні вашай смалы!**



## Пачынаем працу

• Эпаксідная смала – двухкампанентная. У кожнай смалы свае прапорцыі, імкніцеся дакладна прытрымлівацца іх пры змешванні. Для гэтага я выкарыстоўваю шпрыцы і адмяраю неабходную мне колькасць.

• Добра змяшайце складнікі драўлянай палачкай і пакіньце на 20-30 хвілін для дэгазацыі, я раю гэтую стадыю праводзіць на паравай бані.

***Дэгазацыя*** *– працэс, у выніку якога выводзяцца газы са смалы. Пры змешванні смалы ўтвараецца шмат бурбалак, і патрэбны час для іх поўнага знікнення. Паравая баня дапамагае паскорыць гэты працэс.*

• Не змешвайце адразу надта шмат смалы, не больш за 20-30 мл за адзін раз. Па-першае, дэгазацыя будзе доўжыцца больш, па-другое, вы можаце не паспець выкарыстаць смалу да яе загушчэння. Для першых спроб дастаткова будзе і 10-15 мл.
• У выніку смала павінна атрымацца абсалютна празрыстай, без бурбалак і іншых украпленняў, вадкай, амаль як вада.



## Робім упрагажэнні

• Пакуль смала дэгазуецца, складзіце кампазіцыю, уявіце, як будзе выглядаць гатовы выраб. Не трэба выкарыстоўваць надта шмат дэкору, не заўсёды шмат – гэта добра. Абірайце незвычайныя складнікі для свайго будучага ўпрыгажэння. Добра прасушаны мох выдатна захоўвае свой насычаны колер і форму. Калі вы хочаце дадаць колеры, то ёсць адмысловыя фарбы для эпаксідных смолаў, такія як эпаксікон, хаця для гэтага можна выкарыстоўваць што заўгодна, нават гелевую асадку.

• Калі смала набыла патрэбную вам кансістэнцыю і празрыстасць, яе можна заліваць у молд.

• Імкніцеся працаваць хутка, каб смала не паспела загусцець, інакш з’яўленне бурбалак будзе непазбежным, а гэта значыць, што выраб будзе не толькі каламутным, але і ў дробных дзірачках, якія часам не вельмі лёгка адшліфаваць. У кожнай смалы розны час для загушчвання. Залівайце смалу ў форму асцярожна, тонкай бруйкай, імкніцеся мінімізіраваць рухі ў самім молдзе, чым меней умяшальніцтва ў працэс запаўнення смалой вашай формы, тым меней бурбалак у выніку.

• Улічвайце тое, што смала дае невялікае ўсаджванне. Чым больш раслінаў у вас у молдзе, тым большым будзе ўсаджванне. Калі вы робіце аб’ёмныя формы, праз некаторы час варта даліць крыху смалы ў молд.

• Калі вы бачыце на паверхні молда бурбалкі, выдаліце іх звычайнай зубачысткай.

• Пакіньце вашу нарыхтоўку застываць на двое сутак.

• Вымаць нарыхтоўку з молда лепей у мыльнай вадзе, асцярожна, імкнучыся не папсаваць сілікон. Гэта самы прыемны момант, калі нарэшце можна пабачыць вынік!



## Шліфуем і паліруем

• Пасля таго, як смала застыла, нарыхтоўку можна адшліфаваць. Для гэтага вам спатрэбяцца скуркі рознай зярністасці (ад 600 да 2500 мкм). Шліфуеце спачатку самай жорсткай, потым памяншаеце жорсткасць. Такім чынам, нарыхтоўка дасканала апрацоўваецца кожнай скуркай, ад самай жорсткай да больш мяккай. У выніку мусіць атрымацца роўная матавая паверхня без драпінаў. Гэта вельмі карпатлівы працэс, калі вы прапусціце драпіну ці якую-небудзь хібіну нарыхтоўкі, вам давядзецца пачынаць шліфоўку з самага пачатку.

• Многія майстры аддаюць перавагу пакрыццю нарыхтовак лакам, мне гэты спосаб не падышоў. Лак можа класціся нераўнамерна, пакідаць непакрытыя плямкі, а часам і адпластоўвацца. Таму я аддаю перавагу паліроўцы. Паліраваць эпаксідную смалу можна ўласнаруч альбо машынкай з мяккай насадкай на невялікіх абаротах (1000-1500), інакш смала можа паплавіцца. Паста ГОИ падыходзіць для нашай паліроўкі, але можаце выкрастоўваць нават пасту для паліроўкі аўтамабіляў! Кожны знаходзіць падыходзячы для сябе спосаб самастойна, шляхам спробаў і памылак. У гэтым і ёсць асаблівасць ручной працы – у набыцці навыкаў, “набіванні” рукі і эксперыментаванні з матэрыяламі і тэхнікамі.

Пасля паліроўкі засталося толькі падабраць фурнітуру, і вось нашая нарыхтоўка стала стыльным і арыгінальным упрыгажэннем. А галоўнае, абсалютна ўнікальным творам, з душою...

Карысная інфармацыя:

Святлана Лапіна, дызайнер
Instagram: @lapinita_shop
@lapinita_freely



# МОХ
## любоў з першага погляду

Тэкст: Юлія Стратовіч
Фота прадстаўлены Юліяй Стратовіч

*Гэта адбылося каля двух гадоў таму. Мы з сяброўкай толькі што адкрылі фларыстычную майстэрню, я была як ніколі закаханая ў сваю прафесію, увесь час праглядала майстар-класы, чытала артыкулы і г.д. Аднойчы натыкнулася ў Інтэрнэце на неверагодную сцяну з імху, зробленную ў Японіі. Мне тады гэта падалося нечым фантастычным і па-за межамі рэальнага. Гэта было настолькі чароўна, што ў мяне нават не ўзнікла думка паспрабаваць паўтарыць. Праз паўгады я раптам узгадала пра гэтую сцяну і вырашыла, што калі японец здолеў, то і я зраблю. Я пачала глядзець відэа і разбірацца, што гэта ўвогуле такое і як ажыццявіць. Высветлілася, што стабілізаваны мох вельмі дарагі матэрыял, але яго рэальна знайсці і замовіць. Затым быў шэраг спробаў і памылак і, нарэшце, усё атрымалася. Так з'явіўся "MossTownstudio" – мой найлюбімейшы твор, які натхняе і прымушае рухацца наперад.*

## ШТО ТАКОЕ СТАБІЛІЗАВАНЫ МОХ

Стабілізаваным бывае не толькі мох, але і іншыя расліны і кветкі. Па сутнасці, гэта працэс кансервацыі. Для нас гэта навінка, але ў Эўропе і Японіі гэтая практыка сустракаецца яшчэ ў 70-я гады мінулага стагоддзя. Расліну зразаюць і змяшчаюць у раствор на аснове гліцэрыну (гэта калі вельмі спрошчана казаць, насамрэч працэс нашмат складанейшы), пры гэтым яго прыродныя сокі замяшчаюцца і атрымліваецца "закансерваваная расліна". У такім стане расліна можа знаходзіцца дастаткова доўга, 4-6 гадоў, залежыць ад умоваў эксплуатацыі.





## ПРАЕКТЫ

Адзін з самых першых і любімых праектаў – афармленне кавярні “Счастье есть”, для якой я зрабіла лагатып, назву і люстэрка з імху. Я вельмі люблю функцыянальнае мастацтва. Мы імкнёмся ствараць унікальныя прадметы інтэр’еру і мэблю з выкарыстаннем імху. Мая любімая лінейка – гэта бетоннае кашпо з імхом, якую мы рабілі сумесна са студыяй МО. Я была неверагодна шчаслівая, калі мы разам з цудоўным майстрам Аляксандрам Барысевічам зрабілі наш першы стол з імхом унутры! З апошніх праектаў – гэта сцяна ў ванным пакоі, дзе ўсё супала: і інтэр’ер, і маё вар’яцкае жаданне, і замоўцы, для якіх працаваў бы і працаваў. Напэўна, самае чароўнае, калі людзі пішуць табе потым, што іх кожны дзень радуе твой твор і наколькі яны задаволеныя!



## ПЛАНЫ

Вельмі хачу пашырыць лінію прадметаў інтэр’еру з імхом. І вельмі хачу навучыцца рабіць сцены з жывых раслінаў. Мяркую, хутка рэалізую гэтае імкненне. Тэхналогія мне вядомая, засталося толькі пачаць.

# ВЫШЫЎКА МОХАМ



Тэкст: Вікторыя Анжэ
Фота: Эма Матсан

*Мох – незвычайная расліна, якая жыве сваім жыццём у лясах і на закінутых пляцоўках. Для амерыканскай майстрыхі з Мэрыленда Эмы Матсан мох – гэта зорка яе вышываных карцінаў. Мы пагаварылі з рамесніцай, даведаліся пра тое, як узнікла ідэя вышываць імхом і папрасілі падзяліцца парадамі для працы з ім.*



Мяне заварожваюць адносіны людзей з прыродай. З аднаго боку, менавіта нашыя бестурботныя паводзіны прывялі да глабальнага пацяплення, дысбалансу экасістэмы, вырубкі лясоў. З іншага боку, мы цягнемся да прыроды, упрыгожваем свой дом кветкамі. Мы з радасцю прымаем падарункі прыроды, але зусім не гатовыя да ахвяраў на яе карысць.

У працэсе свайго станаўлення як асобы я часта думала пра прыроду і ўплыў чалавека на яе. Мая маці займаецца вывучэннем планктону, якасці вады ў вадаёмах. Дома ў сваім садзе яна разводзіць пчол і кур, сартуе смецце. Я гадавалася, усмоктваючы ў сябе гэты экалагічны лад жыцця. За нашым домам пачынаўся лес, у якім майму ўяўленню было дастаткова месца для развіцця. Я праводзіла вельмі шмат часу ў лесе, збіраючы мох і жабак.

У каледжы я вывучала фатаграфію, але, калі па праўдзе, гэта мне даволі хутка надакучыла. Так атрымалася, што менавіта ў гэты перыяд, калі мне жудасна не хапала натхнення, я вынайшла для сябе вышыванне. Але мне было мала працаваць з іголкай і ніткамі, хацелася аб’ёмных формаў, падобных да скульптурных. Вялікая колькасць імху каля майго дома і падштурхнула мяне да ідэі задзейнічаць яго ў працы.

Мая вышыўка імхом адлюстроўвае саму прыроду, яе мініяцюрны варыянт. Мне цікава працаваць з “жывымі” матэрыяламі, якія ў выніку атрымліваюць другое, больш працяглае жыццё.

У будучым я падумваю выкарыстоўваць у творчасці разнастайнасць натуральных прыродных тэкстураў. Я, пэўна, паспрабую папрацаваць з карою, а “скуру” грыбоў ёсць ідэя выкарыстоўваць як тканіну. Дарэчы, не так даўно я атрымала замову на стварэнне выявы Сінгапурскага саду з вышыні птушынага палёту. Таму, цалкам верагодна, стварэнне рэальных пейзажаў будзе маім наступным крокам.



## ПАРАДЫ АД ЭМЫ:

Мох для сваіх твораў я закупаю ў розных прадаўцоў. Некаторыя тыпы моху адрозніваюцца па колерах – гэта вынік афарбоўкі. Для тых, хто хоча працаваць з лясным "жывым" імхом, варта памятаць, што важна яго добра прамыць і прасушыць, інакш ён можа сапсаваць тканіну, пафарбаваць яе альбо пакрыцца цвіллю.

На кожны мой твор прыпадае прыкладна 3-4 гадзіны працы, у залежнасці ад памеру. У мяне ёсць выпрацаваная схема, я заўсёды яе прытрымліваюся, што, па вялікім рахунку, і дазваляе мне працаваць даволі хутка. Я зусім не выкарыстоўваю клей, усе прадметы, што прысутнічаюць на карцінах, у тым ліку і мох, – прышытыя.

Калі жадаеце выкарыстоўваць мох у вышыўцы, раю спачатку вывучыць разнастайныя віды шыўкоў. Напрыклад, я часцей за ўсё выкарыстоўваю французскі вузельчык. Але праца з іншымі шыўкамі можа даць ідэі выкарыстання іншых рэльефаў. Дый вышываць зусім неабавязкова ніткамі, паспрабуйце выкарыстоўваць любы прыродны матэрыял, які можна прасунуць у вушка іголкі. Прастора для творчасці велізарная, ідэі невычарпальныя. Напрыклад, калі складваць тканіну пластамі, што асабіста я вельмі люблю, можна дасягнуць эфекту трохмернасці выявы. Спрабуйце глядзець на адзін і той жа прадмет з розных ракурсаў. Межаў уяўлення і натхнення практычна не існуе.

*Даследуйце і вырабляйце!*

**Карысная спасылка:**

Эмма Матсан,
майстрыха па вышыўцы мохам

etsy.com/people/emmypants33








На чужой каравай рот не разевай

Ілюстрацыі: Яна Бунцэвіч

# сямейнае
# ВАРЭННЕ

*Лета развіталася з намі, пакінуўшы пасля сябе самыя радасныя ўспаміны, якія так і хочацца захаваць надоўга! ALOVAK цёплым жнівеньскім днём разам з чароўнай сям'ёю Лазаравых вырашыў закансерваваць сваё лета... зварыўшы найсмачнейшае варэнне! Выдатна будзе ўзгадваць гэтыя дзянькі і адчуць іх смак, калі за акном пахаладнее і захочацца зноў адчуць гэты незабыўны тонкі водар саспелых ягадаў спякотнага лета! Назапашваемся вітамінамі і добрым настроем!*



# Закатваем слоікі

Самыя простыя слоікі, якія вы выкарыстоўваеце для кансервацыі, можна зрабіць незвычайнымі. Напрыклад, упрыгожыць іх узорамі і подпісамі.

Для гэтага вам спатрэбяцца маркер-фарба, крэйдавы альбо пермаментны маркер добрай якасці белага колеру, які пакідае непразрыстыя рыскі і не размываецца. Вечкі слоікаў можна абгарнуць кавалачакамі тканіны альбо паперай, абвязаўшы вакол стужкай ці звычайным шпагатам. Пры жаданні вы можаце павесіць яшчэ і цэтлік.

Такія слоічкі не толькі ўпрыгожваюць лядоўню і палічкі, але і могуць стаць цудоўным падарункам сябрам і блізкім.

# Перамешваем лыжкай

Дэкараваць драўляныя вырабы, што выкарыстоўваюцца падчас прыгатавання і спажывання ежы, можна ў экалагічнай тэхніцы!

Маляваць прапануем выпальвальнікам. Зрабіце папярэдні эскіз простым алоўкам на вырабе альбо патрэніруйцеся спачатку на паперы. Пасля таго як малюнак на лыжцы будзе гатовы, пачынайце выпальваць. Рэгулюйце тэмпературу і націск іголкі выпальвальніка, эксперыментуйце з таўшчынёю і відамі ліній, выкарыстоўваючы розныя фігурныя насадкі. Мы выкарыстоўвалі стандартны выпальвальнік “Узор-1” са звычайнай іголкай. Пасля выпальвальня прыбярыце сляды алоўка ласцікам, пры неабходнасці прайдзіцеся па лыжцы наждачнай паперай. Прамыйце выраб і прасушыце.

Зараз ён прыдатны да выкарыстання па прызначэнні і да таго ж водарам нагадвае пра дзяцінства і вогнішча!

майстар-клас:

# Фартух ад Ксеніі Кагуашвілі

*Што б вы ні гатавалі на кухні, вам не абысціся без фартуха. ALOVAK за тое, каб гэты кухарскі атрыбут быў не толькі функцыянальным, але і прыносіў сваім знешнім выглядам выключна задавальненне. Менавіта такі фартух вы можаце пабачыць на гераіне. Спецыяльна для здымкаў ён быў падрыхтаваны майстэрняй Peon Studio, а яе стваральніца Ксенія Кагуашвілі пакрокава распавяла, як пашыць гэты стылёвы і практычны выраб.*

**Вам спатрэбяцца наступныя матэрыялы і інструменты:**

- баваўняная альбо ільняная тканіна двух відаў,
- ніткі для шыцця,
- нажніцы,
- булаўкі,
- лінейка/сантыметровая стужка,
- маркер для тканіны/аловак/крэйдачка,
- швейная машынка (не абавязкова),
- выкрайка,
- фурнітура для рэгуліроўкі завязачак.

**Парада:**

Вельмі зручна, калі завязачкі на шыі можна фіксаваць на рознай даўжыні, асабліва калі фартух выкарыстоўваюць, напрыклад, муж і жонка альбо мама і дачка рознага росту. У якасці фурнітуры могуць выкарыстоўвацца ліпучка, гузікі, кнопачкі альбо спражка, як у нашым выпадку.



*Шукайце майстар-клас па шыцці фартуха ў раздзеле "Карыснае" на сайце alovakmag.by*

Ілюстрацыі: Аліна Крусс

Майстар-клас ад Ксеніі Кагуашвілі,
стваральніцы майстэрні Peon Studio

# Рукавічка – прыхопка

**З матэрыялаў і інструментаў спатрэбяцца:**

- бавоўняная альбо льняная тканіна двух відаў (для вонкавага і споднягa боку),
- напаўняльнік (сінтэпон, вацін, фетр ці драп),
- ніткі для шыцця,
- нажніцы,
- булаўкі,
- маркер, што знікае/аловак/крэйдачка,
- швейная машынка (не абавязкова),
- выкрайка.

*Шукайце майстар-клас па шыцці рукавічкі ў раздзеле "Карыснае" на сайце alovakmag.by*

**Карысная інфармацыя:**

Ксенія Кагуашвілі,
стваральніца майстэрні Peon Studio

**vk.com/peon_studio**
**instagram.com/peonstudio**



**Ідэя і арганізацыя:** ALOVAK

**Фота:** Яўген Грабкін

**Стыль здымкі, дэкор, дапамога ў арганізацыі:** Юлія Трафіменка

**Стыліст:** Настасся Гайко

**Мадэлі:** сям'я Лазаравых

**Вобразы падрыхтаваны салонам прыгажосці** Lstudio

(**макіяж:** Вольга Анушкевіч, **фрызура:** Вікторыя Драко)

Ці любіце вы паштоўкі? Можа вы іх калекцыянуеце, адпраўляеце без нагоды ці дасылаеце сабе і сябрам паштоўкі з падарожжаў? А можа вы заўзяты посткросер? Каманда нашага часопіса вельмі прачула ставіцца да друкаваных паштовак, да паштовых адзнак, штампаў і марак. У гэтым нумары мы знаёмім вас з чарговай аўтарскай паштоўкай by ALOVAK. Спадзяемся, гэтая паштоўка падорыць вам усмешку і цяпло нашых сэрцаў.

## *Вы хочаце атрымаць паштоўку ў сваю паштовую скрыню?*

Падпісвайцеся на нашы старонкі ў Facebook і Вконтакте,
дзе вы даведаецеся падрабязней пра тое,
як вельмі проста і лёгка яна можа ў вас апынуцца.



*Ганна ЛЯЎКОВІЧ – чалавек шматбаковы і захапляльны. Нашая гераіня не толькі рамесніца і стваральніца майстэрні інтэлегентных цацак Sun&Co, але і, як яна сама сябе называе, доктар з багатай фантазіяй. Апроч усяго іншага, Ганна – мама, і можна сказаць, што менавіта дзякуючы з'яўленню сына ў яе жыцці такое істотнае месца заняла творчасць.*



Тэкст: Кацярына Буто
Фота: Святлана Варашылава

## Пра праект

***Як з'явілася ідэя Sun&Co?***

Як і ў многіх жанчын, гэта звязана з нараджэннем дзіцяці. Але гэта не значыць, што пасля родаў у мяне расплюшчылася "трэцяе вока" і неўзабаве адраслі рукі (смяецца). Я ўсё жыццё займалася рукадзеллем і творчасцю. Так атрымалася, што калі была цяжарнай, мне захацелася набыць мобіль для дзіцячага ложка, але не знайшла такога, які б спадабаўся, і зрабіла яго сама. Ідэй было шмат, таму я на гэтым не спынілася.

***Як усё развівалася далей?***

Калі я зрабіла першыя мобілі, аб'ектыўна яны нікому не былі тут патрэбныя: я адчувала незапатрабаванасць, і на тым этапе ўсё магло і скончыцца. Калі б не мой муж, які сказаў: калі гэта не патрэбна тут, значыць патрэбна ў іншым месцы. Так я стала выстаўляць свае працы на замежных сайтах, тады іх і пачалі набываць і замаўляць. На мясцовым рынку ў мяне пачаліся продажы толькі са з'яўленнем цацак.

***На вашую думку, у чым была прычына незапатрабаванасці мобіляў?***

Магчыма, пра мяне на той момант мала ведалі. Але давайце пагадзімся, што культура абсталявання дзіцячага пакоя ў нашай краіне знаходзіцца ў пачатковым стане. У ЗША і Эўропе людзі пачынаюць рыхтавацца да з'яўлення дзіця з таго моманту, як яны даведваюцца пра цяжарнасць. Займаючыся абсталяваннем дзіцячага пакоя, кліенты знаходзяць мяне, дасылаюць здымкі інтэр'еру альбо яго праект. А тэматычна і па колерах я магу зрабіць мобіль пад любы дызайн.

***Акрамя мобіляў вы ствараеце і іншыя вырабы, раскажыце, як да гэтага прыйшлі.***

Пасля мобіляў з'явілася мая першая цацка-падушка, "Адзінарог". На той момант такія падушкі былі дастаткова папулярнымі, але не хацелася рабіць так, як і ўсе: слонікаў і соў. Я вырашыла зрабіць што-небудзь унікальнае і абрала адзінарога. Я не матэматык, але ў мяне добра развітае прасторавае ўяўленне, дзякуючы чаму я лёгка магу ўявіць нешта ў аб'ёме, перанесці гэта на плоскасць і потым пашыць. Я практык: не вылічваю міліметры, а шыю, гляджу, што атрымалася, і калі патрэбна – перашываю. У мяне абсалютна няпрофільная адукацыя: усяму таму, што я зараз раблю, я навучылася сама.

***Чаму вы далі сваёй майстэрні такое імя?***

Назва нарадзілася раней за брэнд. Маё дзявочае прозвішча Санько. На трэцім курсе медыцынскага ўніверсітэта я падумала аднойчы, што гэта была б выдатная назва для сямейнай клінікі, бо ў мяне бацька і сястра таксама па прафесіі медыкі. Але клініка, на жаль, не з'явілася, затое прыдуманая назва спатрэбілася ў маёй асабістай справе.

# Пра майстэрню і сумяшчальніцтва

***Раскажыце пра сваю майстэрню.***

У першую чаргу гэта мае працоўнае месца, гэта не магазін, не шоўрум. Тут усё зроблена пры дапамозе маёй сям'і і сяброў так, каб мне было камфортна працаваць і не трэба было нічога шукаць. Ёсць вялікі стол, каб ён быў мінімальна нагрувашчаны, і перфапанэль, каб усе інструменты былі ў лёгкай дасяжнасці. Усе матэрыялы і гатовыя вырабы ляжаць асобна. Ёсць дапаможнае памяшканне, у якім захоўваецца тое, што не трэба бачыць староннняму воку, напрыклад, 15-кілаграмны мяшок напаўняльніка і дошка для прасавання. Імкнуся, каб заўсёды вакол было чыста: калі заканчваю пэўны адрэзак працы, прыбіраю, мыю і толькі потым бяруся за наступны. Мая майстэрня дасягнула таго ідэальнага стану, калі тут ёсць усё, што мне патрэбна. Хіба што можна завесці болей раслінаў.

Вакол мяне шмат рэчаў ручной працы – я замаўляю і набываю іх у майстроў. Я супрацоўнічаю і зусім спакойна рэкламую тых, хто робіць прыгожыя і якасныя працы, і не баюся, што пакупнікі пярэйдуць.

***За што вы любіце сваё працоўнае месца?***

За тое, што я тут адна. Ведаеце, ёсць такая "хіба" інтраверта: часам трэба пабыць у адзіноце. У такіх умовах ККД павышаецца ў адначассе, гэта вельмі прыемна. Было цяжка знайсці памяшканне з невялікай плошчай. Але мне ў выніку пашанцавала, таму што майстэрня побач з домам, і гэта велізарны плюс. Я знаходжуся тут у вольны ад працы ў шпіталі час, а маё дзіця ў гэты момант знаходзіцца ў садку.

***Вы маці, жонка, рамесніца, доктар... Як атрымліваецца спалучаць усе гэтыя ролі?***

Вялікі дзякуй маёй сям'і, якая дазваляе гэта рабіць! Нельга паспяваць усё, гэта немагчыма фізічна, і, вядомая справа, недзе адчуваецца нястача. І калі дома ў нас парадак, то дай Бог здароўя майму мужу, які перыядычна яго падтрымлівае.

Я па-добраму зайздрошчу тым жанчынам, што адчуваюць сябе ў мацярынстве камфортна і ім больш нічога не трэба рабіць. Я ж не магу ўсядзець на месцы і дазволіць сабе поўнасцю паглыбіцца ў дзіцячыя клопаты. Я стала мамай у 27 гадоў, у мяне да гэтага было сваё жыццё, прафесія. Было няпроста прыняць тое, што мае зацікаўленасці мусяць пачакаць. Я згодна з меркаваннем, што добрая маці – гэта шчаслівая маці. Калі маме, каб быць шчаслівай, трэба 2 гадзіны ў дзень пачытаць кнігу, заняцца творчасцю альбо выйсці на працу – значыць так трэба. Са з'яўленнем майстэрні я больш не працую дома. Да гэтага прыйшла свядома, таму што ў адзін момант асабістай прасторы не засталося зусім. Першыя паўтара гады я працавала па начах. Сын заўсёды патрабаваў шмат увагі, ніколі не забываўся нагадаць мне, што ў першую чаргу я маці, а потым ужо ўсё астатняе.

***Тым не менш, вы паспяваеце паўсюль. Падзяліцеся сакрэтам планавання часу.***

У мяне не 48 гадзінаў у суткі, і калі я штонебудзь зраблю болей, то хутчэй за ўсё буду мала спаць. Мая парада тым, хто хоча паўнавартасна папрацаваць – хаця б на дзве гадзіны запар выключайце тэлефон і стаўце яго на авіярэжым. Потым, існуе шмат таго, што адымае час і на што мы не звяртаем увагі, напрыклад, інтэрнэт і сацыяльныя сеткі. У абмежаванні такіх фактараў дапамагае таймер.

Але хачу сказаць, што ўсё маё планаванне перастае працаваць, калі хварэе дзіця.

# Пра працэс працы і прасоўванне

***Раскажыце пра працэс вашай працы.***
Усё пачынаецца з таго, што я абіраю тканіну. Гэта з разраду спраў, што я ніколі не дэлегую іншым, як і зносіны з кліентамі альбо вядзенне сацыяльных сетак. Я не закупаю вельмі шмат матэрыялаў праза-пас: я зацікаўленая ў тым, каб асартымент перыядычна аднаўляўся, гэта па-першае. А па-другое, мяняюцца трэнды, актуальныя колеры, гэта таксама варта ўлічваць. Канешне, з фінансавага пункту гледжання гэта абсалютна нерацыянальна, прасцей закупіць рулоны трох відаў тканіны. Але ў мяне не вытворчасць, нават калі я вельмі імкнуся, цацак атрымліваецца не вельмі шмат, і я не хачу працаваць на аб'ёмы.
Да тканінаў я стаўлюся вельмі пільна, я выкарыстоўваю толькі якасныя, кітайскія і польскія мы нават не абмяркоўваем. У асноўным я працую з амерыканскай і часткова з карэйскай бавоўнай. Люблю беларускі касцюмны лён, але з ім вялікая складанасць з-за пошуку падыходзячага колеру. Я не баюся набываць дарагія тканіны. У мяне першаснае – аддаць замоўцу якасную рэч, няхай я зараблю меней на яе продажы, затое не губляю ў якасці.

***Апроч падрыхтоўчага працэсу, што яшчэ вам істотна ў выкананні замоў і продажы вырабаў?***
Я ніколі не працую ў хворым стане, таму што лічу, што перадаецца энергетыка. Магу сабе дазволіць не браць замовы, калі замоўца настойліва хоча атрымаць тое, што супярэчыць майму ўнутранаму пачуццю прыгожага. Альбо калі ён хоча зрабіць нешта маімі рукамі. Я ніколі не аддамо рэч, калі мне не падабаецца, як яна зроблена. Я адказваю за ўсё сваёй асабістай рэпутацыяй.

Многія цікавяцца, чаму мае вырабы столькі



каштуюць. Кожны мобіль, кожная цацка – гэта вялікі адрэзак працы, і кошт залежыць у першую чаргу ад колькасці часу, які я праводжу за вытворчасцю. Але ў мяне шмат замоў, таму няма сэнсу заніжаць цану, хутчэй наадварот. Тым больш, я заўсёды раблю зніжку для мясцовага рынку. Дарэчы, я вельмі ацаніла табліцу разліку кошту вырабаў, што была апублікаваная ў **мінулым нумары ALOVAK.** Згодна з яе вынікам, мае вырабы мусяць каштаваць нашмат даражэй.

***Прасоўванне брэнду – што гэта для вас?***
Рукамі можна рабіць абсалютна геніяльныя рэчы, але толькі ад гэтага нічога з месца не пасунецца. На жаль, мы жывём у такім свеце: ніхто выпадкова не зойдзе ў гэтыя дзверы і не набудзе мае цацкі. Наяўнасць сацыяльных сетак і спецыялізаваных сайтаў вельмі аблягчае існаванне, ужо не кажучы пра ключавыя словы, наладку SEO на сайце і гэтак далей. У першую чаргу варта зрабіць так, каб чалавек мог цябе знайсці, калі ён цябе шукае. І на гэта патрэбны час. 1 сакавіка Sun&Co адсвяткаваў сваё двухгоддзе, а менавіта на замову я працую паўтара гады. Каб дасягнуць таго, што ў мяне ёсць зараз, спатрэбілася вельмі шмат працы, я не адношуся да тых інстаграм-акаўнтаў, што стрэльнулі адразу. Колькасць падпісчыкаў наблізілася да 10 тысячаў толькі праз год пасля таго, як я пачала актыўна займацца прасоўваннем.

Я бачу пэўны свой уплыў на іншых карыстальнікаў Instagram, як мінімум беларускіх, і мне прыемна, што людзі пачалі звяртаць увагу на пытанні якаснай здымкі сваіх працаў, іх упакоўкі і на зносіны з замежнымі кліентамі.

***Якім момантам на ваш погляд варта надаваць асаблівую ўвагу ў прасоўванні?***
У інтэрнэт-прасоўванні істотныя фотаздымкі. Яны павінны быць абавязкова добрай якасці. Другое – гэта тэкст. Трэба напісаць так, каб у цябе захацелі набыць. Трэцяе – ключавыя словы: пакупнік павінен цябе знайсці.

Даволі істотныя ў прасоўванні і асабістыя зносіны. Калі я нешта затрымліваю, а такое зрэдку, але выпадае, я не чакаю, пакуль кліент мяне запытае, я пішу яму першая. І ў мяне не было аніводнага разу, каб мяне не зразумелі. Бізнес у сферы ручной працы мусіць прыносіць узаемнае задавальненне: мне – ад зносінаў з добрымі кліентамі, а кліентам – ад зносінаў са мной і ад таго, што я ім зрабіла. А я вельмі люблю цешыць сваіх кліентаў невялікімі падаруначкамі, зніжкавай сістэмай.

Істотны не толькі брэнд, але і асоба, што за ім стаіць. Мне напачатку было нязручна, я саромелася, думаючы, што гэта не зусім прафесійна. Але зразумела, што людзям істотна не толькі што, але і ў каго яны набываюць.



# Пра планы і натхненне

***Як вы ўяўляеце будучыню Sun&Co?***
У мяне шмат ідэй, але бракуе часу на іх рэалізацыю. Бліжнім часам планую выпусціць некалькі навінак-цацак. А што тычыцца планаў на больш далёкую будучыню, то развіццё і перспектывы бачу. Зараз я працую ў інтэр’ерным сегменце, і гэта цалкам ручная праца, ні пра якую вытворчасць гаворкі не ідзе. У гэтым плане мне, верагодна, спатрэбіцца дапамога, але гэта мусяць быць нейкія асаблівыя людзі. Магчыма, калі-небудзь я наважуся зрабіць для дзяцей нешта большае, але гэта запатрабуе сертыфікаці, да чаго я пакуль што не гатовая з пункту гледжання часу, бо гэта дастаткова складаны працэс.

***Якое дасягненне ў працы вам далося найцяжэй?***
Мая асноўная прафесія доктара лічыцца прэстыжнай, але зусім непрыбытковай. І калі я пачала займацца ручной працай, людзі вакол і калегі лічылі гэта пасляродавай гарманальнай дурнотай. І толькі з нядаўняга часу мой праект успрымаецца ўсур’ёз, мне гэта вельмі прыемна.

Мая майстэрня – мая аддушына: я магу дазволіць сабе працаваць у шпіталі для задавальнення без фінансавай зацікаўленасці, і я ўдзячна сваймy праекту за гэта. У свой час я думала пра тое, што для мяне з’яўляецца прыярытэтным, і зразумела, праўда не адразу, што калі прыбраць хаця б адзін элемент, – мне будзе няўтульна. У самым пачатку праекту я дапускала, што, магчыма, не вярнуся ў медыцыну, але не змагла выкінуць такі вялікі адрэзак майго жыцця: вучобу і працу. Я люблю сваю першую прафесію практычна на дабрачынных умовах.

***Праца ў шпіталі натхняе?***
Праца доктарам і рамеснікам – гэта абсалютна дзве розныя ступені адказнасці. У








майстэрні яна высокая, але не крытычная. Я тут ні пра што іншае не думаю, акрамя чалавека, для якога я нешта раблю. У шпіталі ж зусім іншы свет. Я жорстка раздзяляю гэтыя дзве працы і ніяк не змешваю.

***А як яшчэ праца ў медыцынскай сферы паўплывала на вас і вашую творчасць?***

Гіперадказнасць ва ўсім. Мне істотна, каб усё, што я раблю, было бяспечна для дзіцяці. Тыя ж мобілі: я акцэнтую ўвагу пакупнікоў, што гэта не цацка, але нават іх я раблю з думкай, што дзіця захоча пагуляцца. Ну і плюс планаванне. Час не "гумавы", таму ты будзеш болей паспяваць, калі лепей расплануеш справы.

***Што вас натхняе?***

Мая сям'я ў першую чаргу. А яшчэ людзі, зусім розныя, але асабліва тыя, хто шмат працуе і гаворыць пра гэта адкрыта. Тыя, хто не сумуюць, калі ў іх нешта не атрымліваецца, альбо атрымліваецца, але не адразу. Для мяне прыклад такіх людзей – самы вялікі стымул, я разумею, што ўсё раблю правільна.

За кожным хоць трохі паспяховым чалавекам хаваецца вялікая колькасць часу на падрыхтоўку да таго, каб усё атрымалася – на вучобу, памылкі, вопыт. Гэта, бадай, і ёсць пэўным чынам "тры кіты", на каторых стаіць поспех. І шмат-шмат-шмат працы.

***Пытанні задавалі:***
*Кацярына Бута, Ксенія Сасніна*

**Карысная інфармацыя:**

Ганна Ляўковіч,
стваральніца майстэрні Sun&Co

**sunandco.by**

# #МОХДНЯ

У мінулым нумары часопіса мы аб'явілі пра запуск флэш-мобу ў нашым акаўнце ў Instagram на тэму "мох дня". На працягу апошніх некалькіх месяцаў мы з нашымі падпісчыкамі фатаграфавалі мох і выкладвалі ў сетку фатаграфіі з хэштэгам #мохдняALOVAK. Падборка самых цікавых у гэтым нумары.

Дзякуем усім удзельнікам!

FOLLOW ALOVAKmag ON INSTAGRAM
@alovakmag














1 – @irininskaya; 2 – @juliettatrue; 3 – @salvia_field; 4 – @kawaii_nejumi; 5 – @lenkina_netlenka; 6 – @helenka_davydenko;

# АБ’ЯВА!

Тэма наступнага флэш-мобу – **навагоднія цацкі!**

Выкладвайце фатаграфіі на тэму ў сваім профілі з хэштэгам **#НГцацкадняALOVAK.**

Лепшыя здымкі з’явяцца ў падборцы ALOVAK #8.


7.


8.


9.


10.


11.


12.


13.


14.


15.

7 – @yannamelko; 8 – @katsibou; 9 – @irinabeldesign; 10 – @tsislavanna; 11 – @ lizkurochkina; 12 – @julia_and_handmade; 13 – @khrabrovskaya_irina; 14 – @kikitushka; 15 – @alabradzikhina



*Лаванда + Чорная смародзіна*

# МАРОЖАНАЕ

Тэкст: Ірына Агейчык
Ілюстрацыі: Дар'я Уласава

***Дадзена:***

- *1,5 ч.л. кветак засушанай лаванды;*
- *жменька чорнай смародзіны;*
- *2 шклянкі вяршкоў;*
- *2 яйкі;*
- *80 гр. цукру;*
- *60 мл аліўкавага алею;*
- *ванілін.*

***Задача:***

*Прыгатаваць арыгінальнае марожанае з непаўторным водарам.*

**Рашэнне:**




*Кветкі лаванды заварваем у шклянцы кіпнем. Настойваем 15 хвілін пад вечкам. Працэджваем лавандавую гарбату і ахалоджваем да пакаёвай тэмпературы.*



*Змяльчаем у чоперы свежую альбо замарожаную чорную смародзіну, і пакуль што пакідаем збоку.*




*Змешваем лавандавую гарбату з вяршкамі (я брала 10%, але можна абраць і большую тлустасць, хто як любіць) і ставім на невялікі агонь.*



*Тым часам узбіваем міксерам яйкі з цукрам, каб цукар распусціўся.*




*Калі малочна-лавандавая сумесь стане цёплай, пры пастаянным памешванні дадаём падрыхтаваныя яйкі з цукрам. Тут варта адзначыць, што да кіпення даводзіць сумесь нельга, каб вяршкі не звярнуліся. Трымаць сумесь на агні трэба да таго моманту, пакуль па лыжцы, якой яе памешваем, можна будзе правесці пальцам і пакінуць на ёй след, – звычайна гэта займае каля 10 хвілін.*

*Здымаем сумесь з агню і ўводзім у яе аліўкавы алей. Алей мусіць быць якасным, першага халоднага адціску, без гарчынкі.*
*Усё добра ўзбіваем міксерам, каб сумесь займела аднастайнасць. Дадаём здрабнёную смародзіну, дадаём крыху ваніліну. Чакаем, каб маса астыла да пакаёвай тэмпературы, час ад часу перамешваючы. Разліваем па формачках і ставім у маразільную камеру да застывання.*

**Вынік:** *Лавандава-чорнасмародзінавае марожанае гатовае. Смачна!* ■

*Міця ПІСЛЯК – мастак і дызайнер, які з дапамогай чорнага маркера і бязмежнай фантазіі стварае свае арыгінальныя пазнавальныя працы ў Мінску і за яго межамі. Чытайце ў новым нумары ALOVAK, як Міця прыйшоў да свайго стылю, чаму не любіць шпалеры і якую сваю працу асабліва вылучае сярод астатніх.*

*Тэкст: Юлія Багданчык*
*Фота: Марыя Сонгаль, а таксама дадзены Міцем Післяком*

## ФАРМІРАВАННЕ СТЫЛЮ

Я пачаў маляваць з пяці ці шасці гадоў. Мой родны брат, з якім у мяне розніца ў пятнаццаць хвілін, даволі добра маляваў для свайго дзіцячага ўзросту, таму бацькі вырашылі аддаць яго ў мастацкую студыю. А паколькі мы бавілі ўвесь час разам, я пайшоў з ім. З гэтага ўсё і пачалося. Так мы правучыліся некалькі гадоў і паступілі ў мастацкі ліцэй, а затым я падаўся ў Акадэмію мастацтваў.

Пасля сканчэння Акадэміі я мусіў недзе працаваць. Маляваў я на той момант па-рознаму, у залежнасці ад задачы. Спачатку займаўся мастацкім афармленнем бараў і рэстаранаў: дапамагаў ажыццяўляць ідэі гаспадарам і дызайнерам інтэр’ераў. Часцей за ўсё я працаваў над рэалізацыяй ужо гатовага эскізу, але з’явіліся праекты, дзе трэба было самастойна распрацаваць арыгінальны дызайн. Адной з такіх замоў стала афармленне сеткі абутковых крамаў “Маліна”, якой на той момант спатрэбіўся рэбрэндзінг. Дызайнерам інтэр’еру у іх быў мой сябар, ён запрасіў мяне як памочніка. На той момант такога роду магазіны афармляліся прыкладна аднолькава: фота абутку, вялікія здымкі людзей у абутку і без яго, дадаваўся нейтральны колер у інтэр’ер альбо нейтральны плюс яркі, як у нашым выпадку, шэры і ярка-малінавы. Можна было зрабіць дакладна так жа сама і зноў, але задача была знайсці індывідуальнае рашэнне. Мы ўзяліся за ідэю замяніць фотаздымкі непаўторнымі маляванымі вобразамі. Менавіта тады і прыйшло рашэнне выкарыстоўваць прыём, калі пры дапамозе адной чорнай лініі малюецца нейкая прастора, якой у сапраўднасці не існуе. Пры гэтым усё гэта не фотарэалістычна. Мы нікога зрокава не падманваем, усе разумеюць, што гэта малюнак. За два гады працы над гэтым праектам тэхнікаператварылася ў пэўны прыём, манеру. Калі робіш нешта вельмі доўга, хочаш не хочаш, але гэта “прыклейваецца” да цябе, і ты знаходзіш дастаткова простыя і разам з тым эфектныя “фішкі”. Я зразумеў, што для мяне гэта аптымальнае рашэнне: мне не трэба насіць з сабою шклянкі з фарбамі і пэцкацца. Я бяру маленькі маркер і пры яго дапамозе ўвасабляю ўсе свае ідэі.

Пасля гэтага праекту я вырашыў, што мне трэба сканцэнтравацца на падобным стылі. Хоць я і працягваў рабіць нешта іншае, але праз некалькі гадоў канчаткова адмовіўся ад такіх прац, прыбраў іх з партфоліа і цалкам сышоў у чорна-белы стыль. Пакуль што мне гэта не надакучвае. Хаця з нядаўняга часу ў маіх працах сталі з’яўляцца і іншыя колеры, якіх раней не было.

## *ПРАЕКТ НА СТАРТ*

Часцей за ўсё мне дапамагае рэалізоўваць праекты мая дзяўчына Наталля. У нас ёсць невялікая кампанія "Hi, colors", якая зарэгістраваная ў Празе. Пэўны час я думаў пераехаць туды, але Чэхія не падышла мне для жыцця.

Звычайна кожны праект займае адзін-два месяцы: сюды ўваходзіць час ад пачатку перамоў да канчатковага выніку. Што самае цікавае, большую частку можа займаць перыяд перамоў і прыдумвання эскізу. На выкананне ж выдаткоўваецца тыдзень ці два максімум.

У бальшыні выпадкаў замоўцы абсалютна не ведаюць, што ім патрэбна. У іх ёсць сцяна, ім падабаецца чорна-белы стыль, і яны жадаюць на ёй нешта намаляваць. У гэтым ёсць свае плюсы і мінусы. Плюс у тым, што ёсць магчымасць для творчасці, а мінус – неабходна доўга прыдумваць і прапаноўваць мноства варыянтаў. Аднак з часам гэты працэс так наладзіўся, што ў мяне нават ёсць пэўная схема, як паводзіцца ў тых ці іншых выпадках.

Падчас знаёмства з замоўцам існуе два варыянты. Альбо людзі жадаюць працаваць менавіта са мною: яны недзе ўбачылі мае працы, і ім спадабаўся мой стыль. Тады 99%, што ў нас з імі атрымаецца супрацоўніцтва. Другі варыянт – гэта калі ў людзей ужо ёсць уяўленне пра тое, што яны хочуць, і ім патрабны просты выканаўца, які перанясе ідэю на сцяну. Як правіла, з такімі людзьмі ў мяне не атрымліваецца працаваць, паколькі яны адразу гавораць, што ёсць ты, а ёсць яшчэ некалькі майстроў на прыкмеце, да якіх яны могуць звярнуцца, калі твая цана ім не падыдзе. Меня адразу гэта адштурхоўвае. Часам мы працягваем шукаць нешта агульнае і працуем, але звычайна на гэтым нашае супрацоўніцтва і заканчваецца. Я называю ім цану, яны гавораць, што гэта дорага, і сыходзяць да тых самых майстроў. На самой справе гэта дорага для ўсіх. Але калі я бачу, што чалавек зацікаўлены ў супрацоўніцтве менавіта са мною, то я абавязкова знаходжу кампрамісы. Альбо са мной разлічваюцца бартэрам, альбо гэтую выплату мы расцягваем на пэўны час. Галоўнае, каб я адчуваў зацікаўленасць, адпаведна, і вынік будзе класным. Калі яшчэ год таму бартэр быў выключэннем, то зараз гэта перарасло ў звычку. Кожны прапаноўвае тое, чым займаецца: рэкламу, курсы альбо скокі з парашутам.

У мяне наладзілася практыка рабіць некалькі работ у год бясплатна. Я не люблю складзіраваць малюнкі дома. Таму калі ў мяне з'яўляецца вольны час, каб не сядзець без працы, прымаю замовы ад ахвотных.

*«Галоўнае,*

*каб я адчуваў зацікаўленасць,*

*адпаведна, і вынік будзе класным»*

# ПРА ПРАЦЭС

Звычайна сцяна ўжо падрыхтаваная да моманту малявання. Гэта можа быць практычна любая паверхня, выключэнне: я не люблю маляваць на шпалерах. Для мяне гэта недаўгавечны матэрыял, які звычайна змяняецца праз некалькі гадоў. Мне б не хацелася губляць шмат часу і высілкаў на тое, што можа хутка знікнуць, таму я прапаноўваю кліентам зняць шпалеры. Часцей за ўсё я малюю на сцяне з акрылавым пакрыццём. Пачынаю з невялікага эскізу на паперы, раблю замеры, узгадняю з замоўцам накіды. Пасля выбару аднаго з трох варыянтаў, я яго прапрацоўваю падрабязна і канчаткова ўзгадняю. Калі неабходна – нешта змяняем ці дадаём. Затым я наношу малюнак на паверхню. Калі ёсць магчымасць выкарыстоўваць праектар, то ладжу працу з яго дапамогай. Напрыканцы пакрываю работу акрылавым лакам.

Я імкнуся пры маляванні нічога не правіць. Ласцікам тут ужо не сцерці, таму, у крайнім выпадку, даводзіцца браць фарбу, якой была пафарбаваная сцяна, і замалёўваць некалькі разоў, каб не было прасветаў. Але гэта мікравыключэнні. Нават калі лінія пайшла не ў той бок, я раблю так, каб здавалася, што яна менавіта там і мусіць быць. У той жа час я дакладна ведаю, што калі лінія зроблена з упэўненасцю, то пытанняў не ўзнікае.

Я магу вылучыць некалькі любімых частак творчага працэсу. Мне падабаецца, калі праект пачынаецца і ён такі натхняльны, што ўяўляеш, як усё можа атрымацца. Канешне ж, я люблю канчатковую стадыю і той момант, калі стаўлю свой подпіс. Гэта значыць, што я ўжо бачу вынік і задаволены ім. Шчыра кажучы, і ўвесь працэс прыносіць мне задавальненне. Кожны момант. Калі прыходзіш у новае памяшканне, думкі ідуць, ты расслабляешся і нібыта апынаешся ў нейкім сне. Уключаеш прыемную музыку і некалькі гадзін малюеш. Нікуды не спяшаешся. Пэўным чынам рэлакс.




У працэсе працы ў памяшканні курсаў прафесіянальнай фларыстыкі Rozaazora ▶

# КОЖНЫ БАЧЫЦЬ



Бадай, адну сваю работу я магу вылучыць сярод усіх астатніх, паколькі яна вялікая і зроблена на вуліцы. Апошнім часам мне падабаецца працаваць менавіта па-за памяшканнем. Малюнак быў выкананы ў мінулым годзе на вуліцы К. Маркса ў Мінску. Я прыдумаў праект, узгадніў яго і рэалізаваў. Мне было цікава: ці магчыма ў маім родным горадзе здзейсніць нешта падобнае? Само маляванне заняло некалькі дзён, а вось узгадненне – тры месяцы. Калі я працаваў над дадзеным праектам, то адчуваў, што раблю нешта большае, чым звычайна ў інтэр'еры. Гэта малюнак, які можа правісець пяць, дзесяць альбо дваццаць гадоў. І людзі, што праходзяць міма, будуць хоць неяк, але адчуваць энергетыку ад яго. Ён будзе падабацца альбо не, але проста так міма не пройдзеш, таму што не заўважыць яго немагчыма.

Для маёй тэхнікі лепш за ўсё падыходзіць праца з мноствам дэталяў. Таму я і абраў карціну Івана Хруцкага. Я ведаў, што яна будзе выглядаць вельмі эфектна. Гэта была першая мая такая вялікая праца, я не хацеў браць спрэчную тэму, і каб не было праблемаў з атрыманнем дазволу на яе выкананне, я абраў беларускага мастака, чыя творчасць успрымаецца нейтральна і адназначна.

На сённяшні дзень я не так ужо і шмат маляваў на вуліцах, у параўнанні з іншымі мастакамі. Гады тры таму я зрабіў першую невялікую работу ля гасцініцы "Пекін" на вуліцы Чырвонаармейскай, намаляваўшы адчыненыя дзверы і сабаку побач. Пасля гэтага я зразумеў, што мне вельмі даспадобы такія вулічныя працы, ад іх процьма энергіі. Тваю работу ў кватэры ўбачаць толькі тыя, хто жыве там і яшчэ тузін гасцёў, наведвальнікаў. А на вуліцы кожны дзень твая праца перад вачыма дзясяткаў ці сотняў людзей.

Бліжнім часам я планую зрабіць дзве работы ў Мінску. Адну пад мастом на перакрыжаванні праспекту Незалежнасці і вуліцы Бабруйскай, а другую на сцяне жыллёвага комплексу "Каскад".

Паўсюль, дзе я бываю падчас вандровак, я імкнуся зрабіць невялікую працу. Я малюю іх спачатку на паперы, а затым клею на сцены. Усе гэтыя малюнкі "захоўваюцца" на вуліцах. Гэта ў асноўным еўрапейскія краіны. Адзін мой невялікі малюнак знаёмыя наклеілі ў Нью-Ёрку.



▲ Праца Міці на вул. К. Маркса, Мінск

*«Мне было цікава:
ці магчыма ў маім родным горадзе
здзейсніць
нешта падобнае?»*

## ТОЛЬКІ НАПЕРАД

Мне хацелася б маштабіраваць сваю прафесію. Хачу, каб кампанія стала большай за два ці чатыры чалавекі. Хачу, каб гэта была каманда аднадумцаў, якіх звычайна цяжка знайсці, паколькі ўва ўсіх свой стыль. Наймаць проста выканаўцаў для працы па эскізах мне б не хацелася.

Яшчэ хочацца, каб у нас у Мінску была свая студыя шаўкаграфіі. Адначасова я мог бы выкарыстоўваць гэтую студыю для сваіх прынтаў. Гэта тэхніка друку, якую ў асноўным выкарыстоўваюць для пераносу выяў на цішоткі. Асноўным відам дзейнасці падобнай студыі магло б быць навучанне. Не для прафесійнай дзейнасці, а для ўласнага задавальнення. Каб дзіця, напрыклад, магло на цішотцы надрукаваць свой малюнак, які не сыдзе і не згубіць свайго колеру пасля шматлікага прання. Зараз такі час, калі многія малююць свае працы на планшэтах, камп'ютарах, але людзям усё роўна хочацца рабіць нешта сваімі рукамі: ці тое лепка, вышыванне ці выразанне па дрэве.

## НАТХНЕННЕ

У асноўным мяне натхняюць людзі, бо я працую з імі і звычайна раблю малюнак для пэўнага чалавека. Каб малюнак атрымаўся асаблівым, я імкнуся шмат часу размаўляць з кожным кліентам, даведваюся, чым ён займаецца, што яму падабаецца, і раблю працу спецыяльна для яго. Хочацца, каб яна была адлюстраваннем аднаго з яго бакоў. За час працы я натхняюся гэтым чалавекам. У кожнага ёсць свая непаўторная гісторыя.

Апроч таго, мяне натхняюць многія іншыя мастакі. Глядзіш на іх працы, думаеш, як класна яны зрабілі, хочацца рэалізаваць нешта падобнае.

Самае галоўнае, каб чалавек рана ці позна знайшоў свой любімы занятак. Тады яго жыццё зменіцца кардынальна, ён пачне атрымліваць задавальненне ад кожнага дня. Гэта не значыць, што ўсе мусяць крэатывіць і тварыць. Галоўнае, каб праца ішла і прыносіла чалавеку радасць.



◄ Малюнак Міці для Viber

Карысная інфармацыя:

Міця Післяк, дызайнер і мастак

hi-colors.by
facebook.com/HiColorsCompany
instagram.com/hicolorsco

# ФРЫРАЙТЫНГ

*Тэкст, ілюстрацыі: Ірына Бельская*

Сёння мы пазнаёмімся з метадам, які не толькі дазволіць ствараць арыгінальную ідэю, але і дапаможа зазірнуць у глыбіню сваёй падсвядомасці, зняць стрэс, пасябраваць са сваім уласным крытыкам і адчуць волю думкі.



**Фрырайтынг** (англ. free writing) – свабоднае пісанне. Метад атрымаў масавы распаўсюд у 90-я гады мінулага веку, дзякуючы бэстсэлерам Пітэра Элбоў “Пісанне без настаўнікаў” і “Моцнае пісанне”. Таксама на папулярызацыю фрырайтынгу паўплывалі кнігі Марка Леві: “Фрырайтынг: сучасная тэхніка пошуку крэатыўных рашэнняў” і Джуліі Кэмеран “Шлях мастака”.

**Сутнасць метаду:** пішам шмат і хутка, не задумваючыся пра правілы і сэнс напісанага. Нічым не абмяжоўваем сябе. Дарэчы, аўтары метаду раяць пісаць уласнаруч на паперы, а не друкаваць тэкст. Каб выкарыстоўваць метад найбольш плённа, раім прытрымлівацца простых рэкамендацый:

- Пішыце хутка і бесперапынна, не задумваючыся пра якасць свайго тэксту. Не спыняйцеся і не перачытвайце напісанае. Галоўнае паглыбіцца ў плынь думак і слоў і проста пісаць.

- Абмяжоўвайце сваё пісанне па часе (ад 5 да 20 хвілінаў). Проста пастаўце будзільнік. Гэтае абмежаванне дапаможа вашаму мозгу сканцэнтравацца.

- Што б ні пісалі, не крытыкуйце сябе, нават калі ў вас з’яўляюцца думкі, што вы пішаце абсалютнае трызненне (а такія думкі пэўна з’явяцца), працягвайце пісаць. Ніякага самакантролю.

- Не задумвайцеся пра граматыку і пунктуацыю.

Праца з гэтым метадам адбываецца ў тры этапы:

*1. Падрыхтоўчы.* Вазьміце некалькі аркушаў паперы, асадку і будзільнік, зручна ўладкуйцеся. Дарэчы, Джулія Кэмеран у сваіх “Ранішніх старонках” раіць абмяжоўваць запіс сваёй плыні свядомасці не часам, а колькасцю старонак (не менш за тры аднаразова).

*2. Працоўны.* Пішыце, пакуль не зазвоніць будзільнік.

*3. Асэнсаваўчы.* Абавязкова зрабіце перапынак, а потым прачытайце тэкст, які вы напісалі. Паглядзіце, якія ідэі ці рашэнні хаваюцца ў вашым тэксце.

Для выкарыстання фрырайтынгу ў пошуку ідэй, сфармулюйце задачу, вакол якой вы будзеце “фрырайціць”.

Давайце разгледзім на канкрэтным прыкладзе. Нам трэба прыдумаць арыгінальную ілюстрацыю на тэму аховы жывёлаў. Ставім таймер на 5 хвілін, паехалі. У працэсе давялося павялічыць час яшчэ на 5 хвілін. Для сябе зрабіла вывад, што 5 хвілін вельмі мала. Вы можаце эксперыментаваць з часам, як вам будзе зручна. За 10 хвілін у мяне атрымалася наступнае:

(Заўвага рэдактара: арфаграфія, пунктуацыя і стыль аўтара захаваныя).

> *«Защита животных…хм, совсем не ясно, что писать. Защита… за щитом. Животные за щитом. Герб, эмблема, щит. От кого нужно защищать животных? От других животных, от окружающих людей, среды? Животные в руках сильного защитника-великана. Прямо дядя Степа. Котики, собачки это понятно. Медведей нужно защищать, панд и жирафов. На руках у дяди Степы они. )) А что, вполне, такс, я не останавливаюсь… остановка, транспорт, а если транспорт защитный будет у животных. Одна милая машинка-домик на колесах, где всем уютно и хорошо. Жилье для животных-бомжиков. Временное жилье, руки. Руки держат животных бережно и по-доброму. Отлов животных. Отлов может быть добрым, с благими целями. Например, та же машинка, только с целью сделать животным счастье. А если животные сами себя и друг друга защищают. Большой медведь сильный, а за ним много животных – он защитник. Или домашние животные помогали бы бездомным. Временно приглашали бы к себе или скидывали им корм через форточку или еще какие способы находили или хозяева брали бы бездомного кота на адаптацию. Так сказать домашний кот бы учил хорошим домашним манерам, рассказывал про жизнь в квартире, после чего уже воспитанный кот приходил бы в семью. Фотоаппарат лежит... чем он поможет? Развешивать фото тех, кто плохо обращается с животными…»*

Адпачнулі, прачыталі, усміхнуліся. У выніку з гэтага тэксту мы вылучылі некалькі ідэй для ілюстрацыі:

1. Шчыт, з-за яго выглядваюць жывёлы. На шчыце напісана “Защита животных”.
2. Высокі чалавек трымае на руках шмат жывёлаў. Каты, сабакі, мядзведзь, жырафа, зебра...
3. Машына дапамогі жывёлам. У ёй жывёлам можна падсілкавацца, памыцца, патравіць блох.
4. Вялікі мядзведзь-ахоўнік стаіць гарой, а за ім – шмат жывёлаў.

Карыстайцеся фрырайтынгам у любой жыццёвай сітуацыі, ці вы знаходзіцеся ў творчым пошуку, ці сышлі ў крызісны стан. Гэта захапляльна і сапраўды працуе!



# Садавіна і ягады

Тэкст: Валянціна Каржэвіч
Ілюстрацыі: Іна Анікеева



Амерыканскія псіхолагі вызначылі залежнасць характару чалавека ад таго, якія ягады і садавіну ён пераважна спажывае ў ежу. Спецыялісты правялі пільны аналіз, у выніку якога была прапанаваная псіхалагічная “пладова-ягадная” класіфікацыя людзей. Чалавецтва зараз можна раздзяляць на “Апельсіны”, “Грушы”, “Яблыкі”, “Трускалкі” і “Чарэшню”.

Прапануем прайсці гэты тэст калектыўна. Для гэтага пералічаныя садавіну і ягады намалюйце альбо проста напішыце іх назвы на плакаце. Запытайцеся ў сяброў і блізкіх, што сабраліся разам з вамі прайсці тэст, якія з гэтых пладоў яны любяць больш за ўсё, а затым прачытайце характарыстыку, якая адпавядае абранай пазіцыі.

Шукайце расшыфроўку тэста на стар. 132

# У ТВОРЧЫМ ПОШУКУ

*Тэкст: Вікторыя Анжэ*
*Падборка сайтаў: Таццяна Хлапкова*
*Фота: з пазначаных сайтаў*

*ALOVAK дзеліцца новай падборкай любімых спасылак на анлайн-рэсурсы.*



## theselby.com

Калі вам вельмі хочацца змяніць інтэр'ер у кватэры, загарадным доме альбо майстэрні, а а дошкі pinterest вам надакучылі, тады вам абавязкова трэба прайсці па гэтай спасылцы.
Гэта сапраўдная скарбніца: якасныя фота інтэр'ераў кватэр і офісаў знакамітасцяў з усяго свету. У якасці бонусу да фота – невялікія інтэрв'ю з імі, напісаныя ўласнаруч.
Стваральнік праекту Тод Сэлбі на сённяшні дзень фатограф і ілюстратар у Нью-Ёрку, а калісьці – прадавец кветак, перакладчык, дызайнер японскага адзення і кансультант па палітычнай карупцыі! У 2008 годзе ён пачаў фатаграфаваць інтэр'еры сяброў і размяшчаць іх на сваім сайце. Даволі хутка Тод стаў атрымліваць лісты ад людзей з усяго свету: усе яны лічылі свае інтэр'еры ўнікальнымі і вартымі таго, каб апынуцца на сайце.



**carlasonheim.com**

Карла Сонхайм распачала свой творчы шлях, выкладаючы ўрокі малявання ў пачатковай школе. Яе задачай было не проста навучыць дзяцей маляваць, але і паказаць, што маляванне – гэта вясёлы занятак! Пачаўшы працаваць з дарослымі, Карла захавала лёгкі стыль урокаў. Апошнія некалькі гадоў Карла з'яўляецца стваральніцай творчай анлайн-студыі малявання Drawing Lab. Карла разам з іншымі аднадумцамі навучыць вас маляваць жывёлаў, прынцэс, кветачкі і шмат чаго іншага. А самае галоўнае – Карла зможа навучыць выводзіць на паперы нават тыя прадметы, што існуюць толькі ў вашым уяўленні. Кнігі Карлы можна з лёгкасцю знайсці і ў інтэрнэце, і на яе сайце: у свабодным доступе мноства майстар-класаў (частка з іх бясплатная). Хутчэй вастрыце алоўкі і абуджайце натхненне!



**raubdruckerin.de**

Вяртаючыся з летняга адпачынку, заўсёды хочацца прывезці з сабой дух любімай краіны ці горада. Нямецкі праект Raubdruckerin пайшоў далей і прапанаваў насіць часцінку любімага месца на сабе, перавёўшы яго выяву на цішотку, худзі альбо торбу. Стваральнікі збіраюць адбіткі з рэльефных паверхняў Парыжа, Берліна, Амстэрдама, Лісабона – у падборцы больш за 20 гарадоў! Кожны такі адбітак перадае гістарычныя і сучасныя асаблівасці мясцовасці. Маленькія дэталі, якія не заўсёды заўважныя нават мясцовым жыхарам. Пакуль дастаўка за межы Еўразвязу не арганізаваная, мы прапануем атрымаць задавальненне і натхненне ад прагляду працаў на іх сайце. А чаму б не паспрабаваць стварыць нешта падобнае самастойна?

# #journalist_alovak



*Знаёмцеся, гэта журналіст Аловак! Ён дапамагае ствараць наш часопіс і любіць падарожнічаць. Гэтым летам Аловак паспеў пабываць у Беларусі, Швецыі, Германіі, Адэсе, Балгарыі, Іспаніі... і гэта толькі пачатак! Давайце адкрыем нашаму сябру ўвесь свет!*

*Калі вы збіраецеся падарожнічаць і ў вас ёсць жаданне ўзяць з сабой вельмі мілага і кампанейскага журналіста – напішыце нам пра гэта ў сацыяльных сетках. З Алоўкам весела і гарады новыя адкрываць, і сэлфі файныя рабіць :-) Галоўнае – не забудзьцеся прывезці яго назад, у Мінск.*

*Дарэчы, наш памочнік з'явіўся ў рэдакцыі дзякуючы майстэрні* ***«КРАСИВО ДОМА»****.*











# КАЛАЖ
## з паперы і тканіны

майстар-клас ад Ганны Паповай



Тэкст, фота: Ганна Папова

# 1.




Усё пачынаецца з эскізу. Ствараючы яго, пазбягайце складаных формаў, імкніцеся да лаканічнасці і ненагрувашчанасці дэталяў. Гэта палягчае перанос дэталяў на паперу альбо тканіну, а потым і выразанне. Акрамя таго, аплікацыі лепей выглядаюць, калі героі і дэталі размеркаваныя больш спрошчана. Для пераносу дэталяў эскізу лепей, каб іх межы былі выразна вылучаныя. Я звычайна выкарыстоўваю альбо іншы колер, альбо раблю іх больш тлустымі.

Для працягу працы ў думках падзяляем выяву на задні план ці фон, пярэдні план (аб’екты ці персанажы, якія знаходзяцца бліжэй да нас), вылучаем з сюжэту дробныя дэталі, якія будуць наклееныя ў апошнюю чаргу.

*Істотна загадзя вызначыцца, з якой паперы альбо тканіны будуць зробленыя асноўныя буйныя дэталі. Таму я часам выконваю эскіз у колеры і пасля ўжо падбіраю матэрыял. Але гэта не абавязкова. З дробнымі дэталямі можна ўвогуле не спяшацца, бо іх мы будзем прыклейваць у апошнюю чаргу.*

# 2.





Каб эскіз стаў аплікацыяй, мы павінны ператварыць усе ягоныя часткі ў асобныя папяровыя альбо тканінавыя фрагменты і злучыць іх наноў на асобным аркушы. Пачынаючы з задняга плану (у маім прыкладзе гэта сцяна, фіранкі і аконны праём), мы пераносім контур яго складнікаў на падрыхтаваныя для кожнай часткі кавалкі тканіны. Тканіна загадзя прыклейваецца на звычайную паперу (гэта палягчае выразанне). Для гэтага, як і для ўсіх этапаў працы, я выкарыстоўваю клей-аловак. Але ён абавязкова мусіць быць не сухім, інакш даволі хутка тканіна пачне адставаць ад асновы, а дэталі проста адклеяцца.

Істотны момант: уважліва паглядзіце на свой эскіз, пэўна, ёсць краі якой-небудзь дэталі (у маім прыкладзе сцяна), якія быццам бы "заходзяць" на іншы аб'ект (на фіранкі і стол), які знаходзіцца бліжэй ці зверху. Гэты край пры перанясенні выявы трэба будзе падоўжыць на 3-4 мм, каб ён сапраўды трапіў пад дэталь, што знаходзіцца бліжэй ці вышэй.

Для пераносу выявы я падкладваю пад эскіз суадносны кавалак тканіны і, злёгку націскаючы, праводжу па контуры асадкай. Гэта можна зрабіць стэкам, вязальнай спіцай і інш. Як бачна на фатаграфіі, ад націскання ўтварылася цалкам бачная лінія, па якой можна выразаць дэталь.

# 3.



Выразаўшы ўсе дэталі задняга плану, размяркоўваем іх на аркушы паперы альбо кардону і прыклейваем. Каб дакладна вызначыць, дзе менавіта размяшчаецца кожная дэталь, можна пакласці над аркушам эскіз і паставіць невялікія пазначкі, прыціскаючы паперу, як пры пераносе малюнка.

На гэтым этапе істотна не змяняць прапорцыі фону і ўзаемаразмеркаванне яго дэталяў: можа атрымацца так, што дэталі, якія наклейваюцца зверху, проста не закрыюць нейкіх зрэзаў і злучэнняў, якія яны мусяць прыхаваць.

У маім прыкладзе я наклейваю на аркуш дэталі сцяны (шэрая тканіна), папярэдне пазначыўшы, дзе павінен быць іх край (межы малюнка і ёсць мяжа, па якой я прыклею дэталі сцяны), потым праём акна і левую фіранку. Правую фіранку я змяшчу на месца пасля таго, як наклею ў аконны праём галінкі з кветкамі, каб прыхаваць ёю іх кончыкі.

Калі асноўныя дэталі задняга плану на месцах, фіксуем дэталі пярэдняга плану. У маім прыкладзе пярэдні план просты – гэта стол. Але калі ў вас у гэтым месцы малюнка некалькі частак, то так сама, як і ў працы з фонам, прасачыце суаднсясенне дэталяў і месцаў іх размеркавання.

# 4.



Пасля таго як асноўныя буйныя дэталі прыклееныя, можна прыступаць да дробных. Часам, канешне, я парушаю такі парадак. Можа быць, ваш эскіз патрабуе спачатку разабрацца з дробяззю ў адным куце задняга плану, каб завяршыць усё ў ім і перайсці да працы над пярэднім. Строгіх правілаў не існуе. Галоўнае – арганізаваць працэс так, каб не давялося адрываць ці дадаваць нешта ў тую частку малюнка, якая ўжо перакрыта дэталямі, што наклеены зверху.

Выразаем дробязі. У маім выпадку – гэта імбрык, кубачкі, міска з нечым смачным, кветкі ў акне і птушкі. З тым, з якой паперы ці тканіны вы будзеце іх вырабляць, хутчэй за ўсё вы вызначыцеся толькі на гэтым этапе. Магчыма, вам захочацца нешта змяніць у размеркаванні і колькасці дробных прадметаў. Для такой працы зусім неабавязкова цалкам капіраваць эскіз. У мяне разнастайная раслінная і кветкавая дробязь досыць часта адрозніваецца ад той, што планавалася ў эскізе. Некаторыя дэталі можна пераводзіць з эскізу на паперу альбо тканіну вышэйапісаным спосабам, а можна проста маляваць іх алоўкам і выразаць нажніцамі альбо канцылярскім нажом. Калі вы пачынаеце працаваць з дэталлю з тканіны, то малюйце яе ў люстраным варыянце ззаду, дзе наклееная папера. Так гатовая дэталь атрымаецца больш акуратнай. Тонкія галінкі з лісцем лепей выразаць нажом на спецыяльнай падложцы альбо манікюрнымі нажнічкамі.

# 5.



На апошнім этапе працы мы фіксуем дробныя і другасныя дэталі на малюнку. Тут мы можам альбо дакладна адпавядаць эскізу, альбо шукаць новыя, можа быць, больш адпаведныя месцы для нашых дробязяў. Гэта нармальна, таму што ў працэсе вырабу карцінкі нейкія дэталі маглі ўсё ж такі пасунуцца альбо змяніць памер. Магчыма, захочацца дадаць на выяву нешта незапланаванае. Што тычыцца майго прыкладу, то я на гэтым этапе завяршаю працу з заднім планам: прыклеіўшы кветкі і галінкі ў аконным праёме, наклейваю зверху правую фіранку.

Гатовы выраб можна адсканаваць ці сфатаграфаваць. Мне больш падабаецца другі спосаб, так нашмат лепей бачна фактура тканіны, пластычнасць і цені, сама выява здаецца больш жывой. Але ў гэтым выпадку большая верагоднасць, што ўзнікнуць складанасці з перадачай колеру і рэзкасцю выявы. Скàніраванне дазваляе атрымаць больш роўную і якасную карцінку.

Поспехаў вам!



# Марскіі настрой

*Мора-мора, глыбокае і бязмежнае, вірлівае і спакойнае, ласкавае і капрызнае. Яно вылечвае і дорыць моц, натхняе на творчасць і пяшчотна нашэптвае свае таямніцы. Гавораць, некалькі дзён ля мора здольныя замяніць сеанс добрага псіхолага, і з гэтым цяжка паспрачацца!*

*Дорым вам падборку кніг з марскім настроем, яны ідэальна падыдуць як для адпачынку на сонечным беразе, так і для ўтульнага хатняга чытання з марамі пра мора.*

Тэкст: Кацярына Чарняўская
Ілюстрацыя: Ірына Бельская

## Айрыс Мёрдак – “Мора, мора”

(пераклад з англіскай мовы на рускую “Море, море”, М.Ф. Ларые)

Стаміўшыся ад папулярнасці, тэатральны рэжысёр Чарльз Эроўбі пераязджае ў невялікі гарадок на скалістым марскім беразе. Але яго ціхамірнае шчасце будзе парушанае з’яўленнем прывідаў мінулага і загадкавай жаночай постаці, у якой герой пазнае сваё першае каханне.

Гісторыя самазакаханасці, апантанасці і вар’яцтва, што разівіаецца на фоне суровых марскіх дэкарацыяў. Раман Айрыс Мёрдак ужо стаў сапраўднай класікай, што спалучае ў сабе тонкі псіхалагізм, дэталёвую прапрацоўку сюжэту і неверагодна прыгожую мову.

## Франсуаза Саган – “Вітаю, смутак!”

(пераклад з французскай мовы на рускую “Здравствуй, грусть!”, Ю.Я. Яхніна)

Выкшталцоны раман, што прынёс 19-гадовай пісьменніцы поспех і сусветную вядомасць. Гісторыя аднаго лета на Лазурным беразе, прасякнутая сонцам, марской вадой, бестурботнай маладосцю і чуллівымі задавальненнямі.

За відавочнай лёгкасцю гэтай кнігі хаваецца сапраўдная драма, удзельнікі якой – людзі, поўныя недахопаў і слабасцяў, пры гэтым абаяльныя, лёгкія ў зносінах і неверагодна захапляльныя. Раман Франсуазы Саган ужо шмат гадоў прываблівае прастатой і той шчырасцю, што нам уласцівая толькі ў юнацтве.

## Джэсіка Уотсан – “Праўдзівы дух”

(пераклад з англійскай мовы на рускую “Сила мечты”, І.В. Сакалова, Е.І. Аляксандрава)

У 16 гадоў Джэсіка Уотсан здзейсніла, здавалася б, немагчымае – адна праплыла вакол свету на сваёй маленькай парусной яхце “Ружовая ледзі”. Нягледзячы на забароны бацькоў і крытыку вакол, дзяўчына не толькі ажыццявіла сваю дзіцячую мару, але і ператварыла яе ў паспяховы праект, за каторым назіралі тысячы людзей па ўсім свеце. Буйныя штормы і неспадзяваныя змены курсу, хвіліны адчаю і слёзы захаплення – гэта кніга большая, чым гісторыя адной марской прыгоды. Яна сапраўдны доказ таго, як істотна верыць у сваю мару!

## Джоанна Басфорд – “Lost ocean”

Шатландская мастачка Джоанна Басфорд – аўтар папулярных кніг не для чытання, а для размалёўвання. Загадкавыя сюжэты яе кніг, чароўныя персанажы і мноства дробных дэталяў ператвараюць працэс малявання ў сапраўдную арт-тэрапію. У сваёй трэцяй кнізе мастачка запрашае ў творчую вандроўку па таямнічых акіянскіх глыбінях, дзе нас чакаюць сустрэчы з чароўнымі русалкамі і падводнымі гарадамі, незвычайнымі рыбінамі і затанулымі скарбамі. Пагружэнне ў свет яе размалёвак  – гэта выдатная магчымасць зняць стрэс, забыцца пра праблемы і часова вярнуцца ў дзяцінства.

# 100 ЯГАД

*У рубрыцы “100” мы малюем разам з чытачамі. Прычым, малюем адзін і той жа прадмет, але ў ста розных варыянтах. Гэта вельмі займальны і карысны занятак: ён развівае фантазію, удасканальвае навыкі ў маляванні. Акрамя гэтага дорыць салодкае пачуццё перамогі, калі заканчваеш маляваць апошнюю, сотую карцінку!*

Для новага нумара мы малявалі разам з нашымі чытачамі ягады: алоўкамі і акварэллю, фламастарамі і маркерамі... Мы ганарымся нашымі чытачамі і прапануем вам паглядзець на нашу падборку!

1, 6-9, 38-41,70, 95 – @linakruss; 2-4, 14, 69, 78 – Ганна Пісарчук; 5, 51, 92 – @koyukova_lyudmila; 10, 28, 43-45, 65-66, 67, 76, 77, 94 – Маша Завадзкая; 11-13,15-26, 37, 47, 91– Ірына Бельская; 27, 52, 53-56– @volka_by; 29, 30, 71, 73, 74, 75, 84-90 – @_allenka_; 31, 32, 33-36, 62, 79 – @natochkamyr; 42 –Алена Шуруха; 46, 57, 58, 60, 80, 81-83, 93 – @katsibou; 48-50 – Ксюша Сасніна; 59, 61 – Марына Касцюкевіч; 63, 64, 96, 97, 98-100 – @johnny_dutik; 68 – @jujikleo.



## ЯК ПРЫНЯЦЬ УДЗЕЛ У СТВАРЭННІ РУБРЫКІ “100” ?

**1.** Тэма: **СТРАВЫ**

**2.** Малюйце свае 100 любых страў для смачнай вячэры – у любой тэхніцы, з дапамогай любых матэрыялаў. Мы вітаем свабоду творчасці.

**3.** Калі вы намалюеце менш за 100 страў – вы ўсё роўна можаце прыняць удзел у стварэнні рубрыкі.

**4.** Фатаграфуйце ці скануйце свае вынікі і дасылайце на e-mail alovak100@gmail.com з паметкай “100 страў”. Альбо публікуйце іх на нашых старонках у Facebook і Вконтакте ці ў сваім профілі ў Instagram (хэштэг **#100блюддляALOVAK**).

**5.** З усіх дасланых малюнкаў мы абяром 100 самых цікавых, якія і трапяць у рубрыку.

**Жадаем вам натхнення!**

**Звярніце ўвагу!**
На старонках @alovakmag у Instagram, Facebook і Вконтакте мастачка Ірына Бельская кожны аўторак вядзе рубрыку #alovakmag_100, у якой простымі спосабамі вучыць маляваць аб’екты з рубрыкі “100” чарговага нумара ALOVAK. Не прапусціце!



*Вы правялі вялікую працу для пошуку кліентаў, вось яны ўжо робяць заказ у вашай майстэрні – гэта поспех! Віншуем! Аднак на гэтым ваша праца як прадаўца не заканчваецца, бо вельмі істотна, каб у кліента засталіся самыя прыемныя ўражанні не толькі ад самога выраба, але і ад якасці абслугоўвання.*
*Добрая праца – гэта верагоднасць паўторнага звароту да вас. Якім бы цудоўным ні быў ваш вынік творчасці, нельга дапусціць, каб пакупнік застаўся незадаволеным вамі менавіта як прадаўцом. Адзнака пакупкі ідзе ў агульным заліку: якасць выраба + узровень абслугоўвання. Нельга думаць пра продаж як пра разавую дамову. Нават калі вы больш ніколі не ўбачыце гэтага кліента, то цалкам верагодна, што ён парэкамендуе вас сваім сябрам і блізкім альбо пакіне водгук у інтэрнэце. Ніякая рэклама не заменіць адну простую рэкамендацыю ад добрага знаёмага: "Я ведаю гэтага майстра, ён профі ў сваёй працы".*

Сёння мы разгледзім тры асноўныя аспекты ў працы з кліентамі.

# 1. УВАГА

Кліенты любяць увагу. У першую чаргу гэта тычыцца адказаў на пытанні (тэрміны, кошт, якасць матэрыялу і г.д.). Будзьце цярплівымі, бо кожны новы кліент – гэта пэўным чынам чысты аркуш, трэба ўмець тлумачыць спакойна, падрабязна і дасяжна.

***Парада:***
*Падрыхтуйце адказы на пытанні, якія часта задаюцца (спосабы дастаўкі, аплата і г.д.), у сціслай форме размясціце іх у сябе на сайце альбо ў профілі сацыяльных сетак, гэта скароціць колькасць пытанняў пры сустрэчы/званку. У асобным файле запішыце гэтыя адказы ў больш разгорнутай форме. Выкарыстоўваючы капіраванне гэтага тэксту, у інтэрнэт-перапісцы вы больш лёгка і хутка зможаце адказваць кліенту на яго пытанні.*

Заўсёды будзьце на сувязі з кліентам, своечасова адказвайце на званкі, лісты і паведамленні. Калі вы ўпусцілі званок, то абавязкова перазваніце. Праігнараваны званок ад замоўцы можа быць няправільна ім зразумелы. Вы творчы чалавек з мноствам замоў, плануеце ўдзел у выставе ці кірмашы і г.д., але гэта не адмаўляе таго, што варта быць адказным у зносінах з кліентам. Памятайце, што істотна паразмаўляць з ім, асабліва калі вы затрымліваеце тэрмін. Лепей сумленна сказаць пра перанос часу здачы замовы, а не пакінуць кліента з ягонымі версіямі, асабліва калі была ўнесена перадаплата.

Калі дазваляе сітуацыя, то пасябруйце з кліентам у сацыяльных сетках. Гэта неблагі спосаб ненавязліва нагадваць пра сябе і сваю творчасць. Не забывайце сачыць за зместам вашай старонкі, калі яна выкарыстоўваецца як асабістая. Кліент дакладна зверне сваю ўвагу і зробіць свае вывады, калі

раптам вы затрымліваеце замову, а самі ў гэты час размяшчаеце здымкі з вечарын і адпачынку з сябрамі. Пры гэтым у зносінах з кліентам не нагрувашчвайце яго сваімі асабістымі праблемамі. Яму абсалютна не трэба ведаць, што ў вас дома нехта захварэў, затапілі суседзі і г.д. Будзьце заўсёды пазітыўнымі, не спісвайце затрымкі здачы працы на нейкія негатыўныя падзеі ў вашым асабістым жыцці.

***Парада:***
*Каб размяжоўваць асабістыя і дзелавыя званкі, раім завесці асобны тэлефонны нумар, які вы будзеце пазначаць для вашай працы і зносінаў з кліентамі.*

# 2. ЧАС

Працуючы над замовай, правільна зарыентуйце кліента паводле тэрмінаў выканання. Рэальна ацаніце свае часавыя выдаткі. Імкнучыся дагадзіць кліенту, майстры часта заніжаюць тэрміны, тым самым выракаючы сябе на працу ў стрэсавым рэжыме, што можа прывесці да паніжэння якасці тавару, затрымкам выканання і, як вынік, незадаволенасці замоўцы. Лепей крыху завысіць час вашай працы. Калі вы скончыце працу раней, кліенту будзе прыемна, што справіліся раней за тэрмін, пра які дамаўляліся.

***Парада:***
*Калі выкананне замовы прадугледжвае доўгі час, можна паведамляць кліенту пра прамежкавыя вынікі. Напрыклад, паказваць фотаздымкі працоўнага працэсу, падаграваючы тым самым ягоную цікаўнасць.*

Распрануйце свой час так, каб у вас застаўся хаця б адзін дзень на тое, каб паглядзець на гатовы вынік “свежым вокам” і ў спакойнай абстаноўцы прыгожа сфатаграфаваць сваю працу для каталога. Імкніцеся не дапускаць сітуацый, калі вы заканчваеце сваю працу ўночы, а раніцай ужо перадаяце гатовы выраб замоўцу. Многія майстры задаюцца пытаннем: як навучыцца арганізоўваць свой час? Параім вам адзін метад, які можа дапамагчы ў працы. Завядзіце асобны каляндар планавання замоў*. Раздзяліце абяцаны тэрмін на тры часткі. Завяршэнне першай пазначце зялёным колерам, другой – жоўтым, тэрмін здачы замовы – чырвоным. Такім чынам, вам будзе лёгка ўбачыць, на якім этапе вы знаходзіцеся. Імкніцеся раўназначна размеркаваць сваю працу на гэты тэрмін. Не пакідайце ўсю працу на апошні перыяд падрыхтоўкі замовы. Асноўную частку работы імкніцеся зрабіць у “зялёнай” зоне, пакуль напоўненыя натхненнем ад новай для вас замовы. У гэты перыяд можна ўключыць стварэнне эскізу, асновы, нанясення запланаванага малюнка і г.д. у залежнасці ад вашай сферы творчасці. “Жоўты” адрэзак выканання працы правядзіце за тэхнічным напаўненнем (расфарбаваць падрыхтаваныя контуры ў малюнку, правязаць асноўныя дэталі ў кардыгане і г.д.), а “чырвоны” – за дапрацоўкай і шліфоўкай гатовага выніку, падрыхтоўкай да здачы, захоўваннем на фота- і відэаносьбітах для наступнага абнаўлення вашага каталога.

Дадзены метад можна падстроіць пад сябе і сваю творчасць, прадумайце вашыя этапы па падрыхтоўцы выраба. Дадайце яшчэ колеры ў ваш каляндар замоў, калі лічыце, што раздзяленне на тры этапы недастатковы для вашага віду творчасці. Памятайце, што "чырвоны" этап заўсёды мусіць быць максімальна вольны ад непасрэднай працы над вырабам. Выдзеліце гэты час для работы з ужо гатовым прадуктам.

# 3. ПАДАЧА

Продажы пачынаюцца з таго, як вы дэманструеце свае вырабы на старонках сайта, у сацыяльных сетках, на выставах – там, дзе вас знаходзяць кліенты. Ваша задача – паказаць, што вы любіце сваю працу і свае вырабы, кліент абавязкова гэта адчуе. Яму неабходна бачыць, наколькі беражліва і акуратна вы ставіцеся да свайго рамяства. Імкніцеся стварыць гэтую атмасферу пры дэманстрацыі тавару.

Перадавайце кліенту гатовы выраб у прыгожым выглядзе. Паклапаціцеся пра ўпакоўку, укладзіце сваю візітоўку, каталог прац пры наяўнасці. Парадуйце кліента маленькім падарункам-бонусам альбо зніжкавай картай на наступную замову. Калі дазваляе фармат вашай творчасці, то ўкладзіце так званыя пробнікі: мініяцюрныя варыянты іншых вырабаў (напрыклад, калі вы займаецеся вытворчасцю мыла, вырабляеце торты і г.д.).
Пачастуйце кліента кубачкам кавы і смачным печывам, зрабіце ўсё, што ад вас залежыць, каб кліент адчуў сябе камфортна і сышоў з жаданнем абавязкова вярнуцца. Давайце кліенту крыху болей за тое, што ён чакае ад вас. Здзіўляйце прыемнымі дробязямі.

***Парада:***
*На такой аптымістычнай ноце можаце папрасіць кліента пакінуць станоўчы водгук пра вашую працу ў Інтэрнэце. Калі вы выкарыстоўваеце такі інструмент як e-mail рассыланне (навінкі прадукцыі, акцыі і г.д.), запытайцеся, ці не жадае ён быць на яе падпісаны, удакладніце электронны адрас.*

*Вы можаце спампаваць распрацаваны намі шаблон календара планавання замоў у раздзеле "Карыснае" на нашым сайце alovakmag.by. Там вы знойдзеце дзве версіі: для аматараў запаўняць усе на паперы і для электроннага карыстання.

*Як жа гэта цікава і пазнавальна вывучаць тэхнікі рукадзелля розных краінаў з такімі незнаёмымі назвамі! Адразу адчуваю, як пашыраюцца гарызонты і як лёгка можна дакрануцца да ўменняў далёкіх народаў і нават плямёнаў. Гэтым разам мяне занесла на Панамскія астравы да індзейцаў племені Куна, дзе ў трысняговых хатках з земляной падлогай, стрэхамі з пальмавага лісця і гамакамі для адпачынку жанчыны дагэтуль захавалі старажытнае рукадзелле мола. Зараз мы з вамі яго вывучым і паспрабуем выкарыстаць на працы.*

Молы – гэта кашулі з прыгожымі ўстаўкамі-аплікацыямі. Зараз моламі называюць і сам від рукадзелля, які зрабіў племя Куна знакамітым ва ўсім свеце.

Молы выконваюцца ў тэхніцы, адваротнай праразной аплікацыі. Малюнак утвараецца шляхам праразання і прыбірання “непатрэбнай” часткі пласту тканіны. Такіх пластоў можа быць ад двух да сямі. Кожны пласт тканіны свайго колеру. Чым больш прарэзаў і пластоў, тым больш каштоўнымі лічацца молы.
Тэхналогію стварэння молаў давайце разгледзім на нашым прыкладзе. Зробім навалачку на дэкаратыўную падушачку.

## Нам спатрэбяцца:

- тканіна чатырох відаў,
- вострыя нажніцы,
- іголка,
- ніткі,
- аловак (крэйда) па тканіне.





**1.** Прыдумваем раслінны малюнак з удзелам чатырох колераў тканіны: чорнай, малочнай, аранжавай і салатнай. Куны традыцыйна ў свае малюнкі раслін і жывёл укладаюць рытуальны сэнс. І наша ідэя не без сэнсу, мы адлюструем дрэва жыцця!





**2.** Выразаем з тканіны квадраты аднолькавага памеру і згодна з малюнкам размяркоўваем у патрэбнай паслядоўнасці. Верхні колер тканіны – гэта фонавы колер, альбо колер, што часцей за астатнія сустракаецца ў малюнку.



**3.** Зшываем па перыметры (ля краю) усе чатыры кавалкі тканіны.

**4.** Пераносім алоўкам альбо крэйдачкай малюнак на тканіну.



**5.** Праразаем кожны пласт тканіны, дабіраючыся да патрэбнага нам колеру. Рэкамендую не выразаць усе выявы адразу, а выразаць некалькі элементаў за адзін раз, прышываць, а потым брацца за наступны.



**6.** Прышываем праз усе пласты абрэзаны край, падварочваючы яго. Куны робяць гэта швом “наперад іголка” вельмі маленькімі, ледзь заўважнымі шыўкамі, дасканала падбіраючы колер нітак, каб шво было абсалютна незаўважным. Я ж выкарыстала толькі два колеры нітак (чорны і белы). Прычым, дапусціла адвольнасць і ў прышыванні элементаў, скарыстаўшыся швом “праз край”. Гэта надало пэўную дэкаратыўнасць нашай аплікацыі.

**7.** Паступова праразаем патрэбныя пласты тканіны, дабіраючыся да патрэбнага колеру. Прышываем усе элементы.

**8.** Пасля гэтага, магчыма, вам захочацца дзе-небудзь дадаць прарэзы альбо выразаць яшчэ некаторыя часткі ці дадаць вышыўку – не стрымлівайце сваю фантазію!



За кошт мноства пластоў тканіны выраб атрымліваецца шчыльным. Вы можаце выкарыстоўваць гэтую тэхніку ў дэкараванні адзення, пашыць надзвычайную коўдру ці абыграць дзірку на адзенні вашага дзіцяці.

*Не абмяжоўвайце сябе, эксперыментуйце!*
*Мы ўпэўненыя, што молы абавязкова стануць вашым новым захапленнем!*

# *малюем* БУКЕТ з гароднiны



Марына Дубiна
"Гароднiна ад бабулi",
акварэльныя алоўкi, папера

Мы зноў запрашаем усіх тварыць разам з намі
і прыняць удзел у традыцыйным конкурсе.
Гэтым разам мы вырашылі даць чытачам яшчэ больш свабоды творчасці і прапануем маляваць не паводле фотаздымка, а на прапанаваную тэму.
Тэма малюнка для сёмага нумара часопіса ALOVAK –

## “БУКЕТЫ З ГАРОДНІНЫ”!

Спецыяльна для ALOVAK адна з пераможцаў конкурсу мінулага нумара Марына ДУБІНА намалявала гэтую карціну.

А як вы ўяўляеце сабе букет з гародніны? Намалюйце яго так, як адчуваеце, як умееце: у любой тэхніцы, пры дапамозе любых матэрыялаў, галоўнае, каб ваш малюнак адпавядаў зададзенай тэматыцы.

## *Публікуйце*

адсканаваныя альбо сфатаграфаваныя вынікі вашай творчасці пад хэштэгам **#alovakmag_конкурс**, у апісанні фота пазначце **“Бяру ўдзел у конкурсе малюнка ад @alovakmag”.** Больш падрабязна пра правілы конкурсу шукайце на нашых старонках у сацыяльных сетках.

Адзін з пераможцаў конкурсу атрымае падарунак ад нашага сталага партнёра магазіна “Всё для художника”. Другому пераможцу будзе падараваны букет з гародніны, садавіны ці ягад ад студыі “Вкусные букеты”. Яшчэ адзін пераможца атрымае магчымаць праілюстраваць наступны конкурс малюнка ў адным з наступных нумароў часопіса ALOVAK! Натхнення і поспехаў!

### КАРЫСНАЯ ІНФАРМАЦЫЯ:

“Всё для художника”
*г. Мінск, вул. М. Танка, 30*
art-magazin.by

“Вкусные букеты”
*букеты з садавіны, гародніны і ягад*
*instagram.com/vkusnie.buketi*

*Сёння вучоныя задаюцца пытаннем, як жа былі пабудаваныя без тэхнікі і дакладных прыладаў розныя велічныя пабудовы старажытнасці? На Беларусі б адказалі – талакой! Гэта, канешне, жарт, але нашыя продкі спраўляліся са сваёй цяжкай працай менавіта так. Склікаўшы на дапамогу ўвесь род, усю вёску, можна было здзейсніць многае. Чытайце пра талаку і яе асаблівасці ў матэрыяле Насты ГЛУШКО.*



Талака – старажытная з'ява ў традыцыйнай культуры Беларусі. На думку даследчыкаў, карані гэтага звычаю хаваюцца яшчэ ў першабытным грамадстве. Адметнасць талакі ў яе добраахвотнасці.

Талака — у беларусаў і іншых славянскіх народаў даўні народны звычай калектыўнай дапамогі ў гаспадарчых работах, адзін са спосабаў арганізацыі працы.

Якія ж работы выконваліся талакой? Усё тое, дзе адзін не дасі рады. Напрыклад, жніво маглі спраўляць усёй грамадой. Ад сталых жанчын і зараз яшчэ можна даведацца, як раней жалі: "Сёння вот адной сажнем, заўтра другой, так пакуль усё чысценька не пажнем...". Талакой касілі, вазілі гной на палі, будавалі хаты. А ўзнагародай памочнікам была багатая вячэра, што ладзілі гаспадары. І абяцанне дапамагчы, калі з'явіцца патрэба.

*"А каб нам чатыром, шырокая ніўка – вот ба мы пажыналі!*
*А каб нам, чатыром, дай бочачка і з вінам – вот ба мы папівалі!*
*А каб нам, чатыром, дай скрыпачка з дударом– вот ба мы пагулялі!"*

Талокі можна умоўна падзяліць на два тыпы па відах працы: аграрныя – усё, што звязана з гаспадаркай (жніво, сенакос, дажынкі і інш. ) і вытворчыя (будаўніцтва, малацьба, супрадкі, трапанне лёну і інш.). Таксама прысутнічала дзяленне на мужчынскія і жаночыя, ізноў жа, па характары працы.

Незалежна ад відаў працы, талочны абрад складаўся з трох частак: запрашэнне, талочная праца, частаванне. Гэта аснова. Да яе дадаецца шэраг абрадавых дзеянняў: абліванне вадою, пляценне вянка, качанне-кулянне, спажыванне кашы, спажыванне моцных напояў. Ёсць і некалькі выразных сімвалаў, напрыклад, – вянок, каша і сыр, лыжка.

Цікава засведчыць, што ў Беларусі тэрмін "талака" перайшоў і на галоўную ўдзельніцу абраду. Так, Талакой называлі прыгожую дзяўчыну, якую выбіралі на дажынках. На галаву ёй ускладалі вянок з каласоў, а ў рукі давалі дажынкавы сноп. Яе маглі называць таксама багіняю, княгіняю, царыцаю. Яе вялі пад рукі і саджалі на кут, падносілі першую чарку, ёй кланялася гаспадыня.

*"Сталася навіна,*
*Нашлася в полю княгіня,*
*Нашлі мы её в полю*
*І вядзем цяпер з сабою"*

Функцыі Талакі-дзяўчыны супадаюць з функцыямі вянка і апошняга снапа. Яна так жа змяшчаецца на самым пачэсным месцы ў хаце, яе таксама рытуальна абліваюць вадой, яна так жа прыносіць у дом гаспадара дабрабыт і ўрадлівасць яго ніве.

# ЗАПРАШАЛІ

Запрашаў на талаку звычайна сам гаспадар. Зазываў суседзяў на пачастунак з пірагамі, і расхвальваў, як ён пачастуе аднавяскоўцаў пасля сумеснай працы. Спецыяльных словаў не было, запрашэнне зводзілася да звароту "...бывайце к нам у талоку...". Бывала, што размяркоўвалі чарговасць талокаў на сялянскім сходзе, кожнаму па неабходнасці. А магло быць і так, у выпадку хваробы ці смерці, пажару, што сам гаспадар і не прасіў дапамогі, але суседзі і аднавяскоўцы разам збіраліся ў хату да пацярпелых і прапаноўвалі гаспадарам дарма свае паслугі, каб скончыць прыпыненую бядой працу. Маглі і проста па чарзе ўсёй вёскай дапамагаць адзін аднаму, як у выпадку жніва.

Ад удзелу ў талацэ не адмаўляліся, бо той, хто адмовіўся, мог сам застацца без дапамогі. Своеасаблівая "кругавая парука": ты дапаможаш мне сёння – я табе заўтра. Запрашэнне нават успрымалася як аказаны гонар.

# ПРАЦАВАЛІ

Існавалі пэўныя правілы выканання самой талочнай працы. Ледзьве не кожны крок рэгламентаваўся ў працах, звязаных з будучым ураджаем. Некаторыя працы забаранялася выконваць жанчынам, істотам, па рэлігійных поглядах, "нячыстым". Адначасова некаторыя працы маглі рабіць толькі жанчыны, напрыклад, жніўныя, выбарка, праполка і прадзенне лёну.

**Прыклады правілаў талочнай працы:**

- Ідучы на працу, смаленскія беларусы імкнуліся апрануцца ў што-небудзь чырвонае, каб і гаспадарам "красна" (добра, прыгожа) жылося.
- Калі растрасалі гной па палях, дзяўчатам раілі рабіць гэта шчыльненька, без праплешын, а то мужык будзе пляшывы.
- Усім работнікам неабходна было весці безупынную размову, але нельга было ўспамінаць у гутарцы сваю працу, ці смяяцца над гноем, ад гэтага нібыта ён губляў сваю сілу і ўся праца пайшла б марна.

# АБЛІВАЛІСЯ І КАЧАЛІСЯ

Аблівіны – рытуальнае абліванне ўдзельнікаў талакі вадою, ледзьве не самая важная частка талакі. Ладзілі пасля пачастунку, на гэты момант усе павінны былі запасціся вадою. Дзяўчаты (на вясновых талоках) імкнуліся заманіць хлопца на поле, выкачаць яго ў гної , а пасля ўкінуць у сажалку. Хлопцы тым часам забіраліся з цэбрамі на стрэхі і чакалі дзяўчат, якія з песнямі вярталіся з поля. Лічылася, што, чым больш талочнікаў будзе абліта вадою, тым лепш для гаспадара: больш пройдзе дажджоў, багацейшым будзе ўраджай.

На дажынках вадой палівалі дзяўчыну з вянком, імкнучыся абліць менавіта вянок. Вада тут выступае як сіла, што нясе плоднасць, тым самым забяспечвае будучы ўраджай. "Жнеі ідуць з песняй дамоў, хто першы сустрэне па дарозе і абалье вадой, таму жыта добра будзе радзіць", – лічылі на Гродзеншчыне.

Характэрным звычаем для дажынак з'яўляецца качанне-кулянне па ніве. "Кладуцца на зямлю, каб на будучы год жыта было добрае і калоссе гнулася да зямлі", – тлумачаць гэтае дзеянне ў Лепельскім раёне. Дажаўшы жыта, жнеі таксама клаліся на зямлю і качаліся са словамі: "Ніўка, ніўка, аддай маю сілку, на другую ніўку...".

# ЧАСТАВАЛІСЯ

Па сканчэнні працы гаспадар павінен быў зладзіць частаванне-пір для ўсіх, хто працаваў. Непрыстойна было скупіцца на пачастункі і напоі. За скупасць гаспадара маглі ўзнагародзіць вянком з ядлоўцу ці крапівы. Традыцыйнымі стравамі былі каша і сыр. Трэба дадаць, што на талочных застоллях улічвалі час правядзення талакі, напрыклад, на Русальным тыдні – "мясная" талака, а на Пятроўкі пасні̇чаюць.

# СІМВАЛЫ

**Каша** з'яўляецца, наогул, рытуальнай стравай для беларусаў. Яна прысутнічае абсалютова ва ўсіх важных абрадах, звязаных з нараджэннем і смерцю, на ўсіх вялікіх святах. Гатуецца такая каша з зярнят збожжавых раслін. З'яўляючыся ледзь не самай старажытнай хлебнай ежай, каша атрымала функцыі stationоўча ўплываць на ўрадлівасць зямлі і дабрабыт чалавека. Цікавы абрад "выкрадання кашы" прысутнічае на веснавой талацэ на Смаленшчыне. Кашу са стала кралі, упрыгожвалі вянком з кветак, а гаспадар яе выкупаў. **Сыр** таксама з'яўляўся неабходнай рытуальнай ежай на талочнай вячэры і сустракаўся ў розных земляробчых абрадах. "Талачу, талачу – сыру хачу". З сырам, хлебам і соллю сустракаў гаспадар жнеек з поля. Сыр, як і каша, выкарыстоўваўся ў якасці ахвяры багам, яго белізна-чысціня выкарыстоўвалася ў магічных дзеяннях, так жанчыны ішлі з сырам на поле і елі, прыгаворваючы: "каб лён урадзіўся кужалем" (тонкім і белым). Цікава ўзгадаць і пра такую непрыкметную ўдзельніцу застолля, як **лыжка**. Даўней, напрыканцы дажынкавай вячэры, жнеі ламалі свае лыжкі. Навошта? Бо лічылі, што нельга пакідаць іх на стале, калі застолле на вуліцы, каб не скарысталіся варожыя сілы і не сапсавалі ўсёй працы. Кожная прыносіла з сабой сваю лыжку і забірала яе дамоў альбо ламала. З лыжкай, наогул, звязана шмат павер'еў. Гэта адна з асабістых рэчаў, лыжкі памячалі, нікому не пазычалі, іх нават надзялялі ўласцівасцямі жывых істотаў. Лічылася, што пасля абеду лыжка можа "стаміцца", і ёй трэба пэўны час "адпачыць". На талочнай вячэры ламанне лыжкі перагукаецца з біццем посуду "на шчасце" на хрэсбінах, на вяселлі, а таксама на Юр'я, калі білі талеркі "на добры ўраджай". Яшчэ адным з сімвалаў талакі з'яўляецца **вянок**, які паўстае шмат яшчэ ў якіх абрадах беларусаў. Прысутнічае ён і на вясновых святах, і на Купаллі, і на вяселлі. У талочных абрадах самы заўважны дажынкавы вянок, яго звівалі з каласоў і ўпрыгожвалі кветкамі, несці яго з поля магла толькі лепшая дзяўчына, у хаце яго змяшчалі на самае пачэснае месца. Наогул, завіванне вянка з'яўлялася адным з прыёмаў земляробчай магіі:

> *"Мы заўем вяночкі*
> *На жыта густое,*
> *На ячмень каласісты,*
> *На авёс расісты"*

Вянок – гэта сімвал паспяхова завершанай працы. Дажынкавы вянок плялі з апошніх каласоў і неслі гаспадару. З вырванага апошняга лёну плялі вянок. Нарэшце, вянок ускладалі на дах новага збудаванага дома. Узгадваецца таксама руская прымаўка: "Конец – всему делу венец".

* * *

Талака нарадзілася ў глыбокай старажытнасці і ў некаторых формах існуе і цяпер. Гэты звычай, напэўна, адзін з самых каштоўных для аднаўлення ў сучасным грамадстве. У сувязі з гэтым хочацца пажадаць, каб кожны з нас мог адчуць, што побач добрыя суседзі і родныя, якія дапамогуць пры патрэбе. І трэба быць гатоваму аддзячыць тым жа.

*Артыкул падрыхтаваны на аснове матэр'ялаў даследавання Т.В.Валодзінай "Талака ў сістэме духоўнай культуры беларусаў".*

# #выбарALOVAK

*Стылёвыя працы таленавітых майстроў у новай падборцы рэдакцыі нашага часопіса.*

Паважаныя чытачы, вы можаце паўплываць на наш выбар – адзначайце фотаздымкі са сваімі любімымі вырабамі хэштэгам #выбарALOVAK, давайце ствараць рубрыку разам!

Тэкст: Юля Прашковіч

Драўляныя цацкі-самалёты для юных заваёўнікаў нябёсаў ад майстрэрні сям'і Міхеевых



Дзве торбы замест адной не жадаеце? Калі ласка!
Зручная двухбаковая торба з натуральных тканінаў ад Peon studio







Піце гарбату з мілага кубачка ад Любові Кузняцовай






Адданы сябар і захавальнік маленькіх сакрэтаў – мішка ад Тані Цейкінай

Самыя цёплыя ўспаміны пра лета дапаможа захаваць прэс для гербарыя ад Secret Garden

Казачная брошка ў стылі боха
ад Ірыны Фёдаравай для аматараў
памарыць пад месяцам



Раніца пачынаецца з усмешкі
разам з пацешным
дыванком-ільвянём ад belkin.home



Букет з беларускай лаванды
ад Lavanda Mia –
любімы водар
побач як ніколі





Стылёвыя
і зусім не калючыя
брошкі-чартапалошкі
ад OKPODOLINS





Падарыце свайму фотаапарату
яркі кофр
ад Настассі Стралкоўскай



Акуніцеся ў казку
з чароўныміляснымі жыхарамі
ад Іны Раманчанкі

# Вышыўка на палатне

*Эксперыментатары, гэты майстар-клас акурат для вас! Наталля Хіжа пакрокава паказала і распавяла, як у адной працы можна сумясціць некалькі тэхнік: вышыўку і малюнак на мастацкім палатне.*




Тэкст, фота: Наталля Хіжа

## З інструментаў і матэрыялаў спатрэбяцца:

- палатно (20х20 см);
- намаляваны (раздрукаваны) малюнак;
- капіравальная папера;
- акрылавыя фарбы;
- пэндзлі;
- вада;
- ніткі;
- іголка;
- нажніцы;
- просты аловак;
- шчыльная папера;
- папера для дэкупажу (нарэзкі з часопісаў);
- клей;
- чорны лінер.

**1.** *Пераводзім малюнак на палатно пры дапамозе капіравальнай паперы. Не забудзьцеся, што ў палатна ёсць падрамнік. Тая частка малюнка, якую вы будзеце вышываць, не павінна трапіць на гэты падрамнік.*



**2.** *Выразаем і наклейваем лісце з кардону і дэкупажнай паперы. Кардоннае лісце можна зрабіць аб'ёмным, для гэтага прыклейваем толькі частку лісточка і крыху загінаем. Пакідаем працу на час, пакуль падсохне клей.*




**3.** *Прыйшла чарга пэндзляў і фарбаў! Малюем галінкі, расфарбоўваем лісце (тое, што з дэкупажнай паперы – тонкім слоем).*



**4.** *Пасля таго як фарбы падсохлі, па контуры вышываем птушку, шыўкамі дадаём крыху штрыхоў. Можна паэксперыментаваць і паспрабаваць розныя віды шыўкоў.*



**5.** *Фінішная прамая. Птушку вышылі, лісце наклеілі і расфарбавалі. Засталося дадаць дробныя дэталі. Для гэтага спатрэбяцца фарбы, лінер і фантазія. Малюем кружочкі. Карціна гатовая!*




## Парада:

Можна зрабіць для карціны кампанію. На маленькіх палотнах намалюйце лісце, што адпавядае стылю першай кампазіцыі. Гэтыя карціны выдатна дапаўняюць адна адну.

**Карысная інфармацыя:**

Наталля Хіжа, майстар
instagram.com/baraban4ik

*Гарадная, ці па-мясцоваму, Городна, – адна з самых цікавых вёсак у Беларусі, якая здаўна славілася сваёй ганчарнай вытворчасцю. Упэўніцца ў гэтым можа кожны, наведаўшы самы поўдзень Беларусі, знакамітае Палессе. А падставай будзе – унікальны міжнародны пленэр ганчароў, які ладзіцца ў Гараднай кожныя два гады.*

## З ЧАГО ЎСЁ ПАЧЫНАЛАСЯ

Першы пленэр адбыўся ў 2008 годзе, дзякуючы намаганням работнікаў Цэнтра ганчарства. Сам Цэнтр пачаў дзейнічаць яшчэ ў 2003-ім: двухпавярховы будынак на адной з галоўных вуліц вёскі паступова ператвараўся ў ганчарную скарбніцу Беларусі.
Сёння ў Цэнтры можна пабачыць музей гісторыі ганчарства, галерэю вырабаў патомных ганчароў, а таксама спецыяльную экспазіцыю прац удзельнікаў пленэру. Менавіта тут можна параўнаць ганчарныя традыцыі розных майстроў, убачыць адметнасці ганчарнага мастацтва розных краін. Бо гараднянскі плэнэр тым і славіцца, што сюды з'язджаецца шмат замежных майстроў. За апошнія гады вёска прыняла ўдзельнікаў з Украіны, Грузіі, Малдовы, Арменіі, Швецыі, Даніі, Латвіі, Расіі, Польшчы ды іншых краін.

### ЦІКАВЫЯ ФАКТЫ

- Вёскай Гарадная стала толькі ў XX стагоддзі, а дагэтуль старадаўняе мястэчка з уласным гербам валодала пачэсным магдэбургскім правам, якое атрымала ў 1592 годзе.

- На пачатку XX стагоддзя пераважная большасць жыхароў Гараднай так ці інакш было звязаная з ганчарствам.

- Каля гэтага старажытнага паселішча размешчаны найбуйнейшыя залежы тугаплаўкіх каалінавых глін. Пры абпале такая гліна становіцца амаль белай і малапорыстай. На гэтых якасцях гліны і грунтуецца пазнавальнасць і асаблівасць гараднянскай керамікі.

- У 2010 годзе традыцыйнаму ганчарнаму промыслу Гараднай надалі статус нематэрыльнай гісторыка-культурнай каштоўнасці.

## У ГЭТЫМ ГОДЗЕ

На пяты па ліку пленэр у 2016 годзе прыехалі ганчары з Беларусі, Украіны, Польшчы, Расіі. На жаль, армянскія і літоўскія майстры не змаглі трапіць на мерапрыемства праз пэўныя складанасці на мяжы.

У гэтым годзе ў пленэры паўдзельнічалі і самыя маленькія ганчары. Для дзяцей быў арганізаваны своеасаблівы летнік у Гараднoй: хлопцы жылі ў намётах у двары музея-сядзібы ганчара ды вучыліся ганчарству, каб ужо на нядзельным кірмашы нароўні з прафесійнымі майстрамі прадаваць свае гаршчочкі, яшчэ не ідэальныя, але дакладна зробленыя з вялікай увагай і цікавасцю да справы.

Пленэр доўжыцца тыдзень. Падчас яго ўдзельнікі знаёмяцца, ганчараць, лепяць з гліны, абпальваюць свае вырабы, праводзяць майстар-класы, абменьваюцца досведам, удзельнічаюць у конкурсах.

Адной з найцікавейшых падзей пленэрнага тыдня з'яўляецца кірмаш, які традыцыйна праходзіць у нядзелю. Сёлета ён распачаўся з адкрыцця адмысловага помніка ганчару, які зрабіў вядомы беларускі майстар па дрэве, мастак Іван Супрунчык. Асаблівую аўтэнтычную атмасферу стварылі ў гэты дзень патомныя гараднянскія ганчары, якія прывезлі свае гаршкі коньмі, на вазах з саломай.

Зрэшты, набыць на кірмашы можна было не толькі гліняныя вырабы. З розных раённых цэнтраў Беларусі прыехалі таксама майстры па саломе, дрэве, макрамэ, вышыўцы… Тут каманда ALOVAK з прыемнай нечаканасцю сустрэла майстра з Бярозы Аляксандра Пракапчука, які правёў *майстар-клас па вырабе шчэпавай птушкі для шостага нумара часопіса.*

### ЦІКАВА ВЕДАЦЬ

Каб не толькі пазнаёміцца з вырабамі гараднянскіх ганчароў, але і ўявіць, дзе і як яны жылі, варта наведаць **Музей-сядзібу ганчара**, які змясціўся зусім недалёка ад цэнтру вёскі. Невялікі, але ўтульны, ён валодае сапраўднай атмасферай ганчарнага дома, у якім калісьці жыў патомны ганчар.
На першы погляд гэта самы звычайны вясковы дом, але, калі прыгледзецца, можна ўбачыць шмат адметнасцяў. Вось, напрыклад, на кухні ёсць адмысловыя жэрдачкі, падвешаныя пад столлю, – ставіць гаршкі. Вось спецыяльная выемка ў лаве, каб уладкаваць ганчарны станок. А калі выйсці на двор ды зазірнуць у сапраўдную печ, дзе нашыя продкі абпальвалі гаршкі, сумневаў у тым, што гэта хата незвычайная, не застанецца…

## ЯК ТРАПІЦЬ

Каб наведаць гэтую ўнікальную вёску, варта мецьна ўвазе, што Гарадная знаходзіцца ў прыгранічнай зоне Беларусі. Таму абавязкова вазьміце з сабой пашпарт ці від на жыхарства, для дзіцяці пасведчанне аб нараджэнні, а таксама квітанцыю аб аплаце дзяржпошліны (0,2 б.в., што прыкладна складае 2$). Замежным наведвальнікам прыйдзецца таксама атрымаць пропуск у органаў пагранічнай службы.

На жаль, у Гарадную не так проста трапіць, калі ў вас няма асабістага транспарту. Прамы аўтобус, да прыкладу, ідзе з Пінска, але толькі два разы на тыдзень: у пятніцу і нядзелю ўвечары. Ходзіць аўтобус са Століна, але ранняга рэйсу, каб трапіць на кірмаш няма, а значыць, трэба начаваць з суботы на нядзелю ў Гараднй. Таму зараз дапамагчы ахвотным трапіць на ганчарнае свята могуць адзінае што "папуткі": у дні пленэру іх злавіць няцяжка. Дабрацца са Століна да Гараднй камандзе часопіса ALOVAK, на шчасце, дапамагла старшыня столінскага раённага фізкультурна-спартыўнага клуба Святлана Шыман, за што рэдакцыя выказвае ёй шчырую падзяку.

***

І між тым, гараднянскі плэнэр – значная падзея ў нашай краіне. Бо ганчарства – даўняе славутае рамяство, якім нашы продкі зараблялі сябе на жыццё ды славіліся за мяжою. А Гарадная – самая "ганчарная" беларуская вёска. Нягледзячы на пэўныя складанасці, працаўнікі Цэнтру маюць настрой пазітыўны: "Гараднянскае ганчарства ў бліжэйшыя 50-60 гадоў не загіне! Гліны ў нас і на 200, і на 300 гадоў хопіць!"

### УРАЖАННІ

Кірмаш для городэнцэв – сапраўдная падзея. Яшчэ не пачалася афіцыйная частка, а жыхары вёскі ў святочных строях выходзяць на цэнтральную плошчу, каб павітацца адно з адным, паразмаўляць пра тое-сёе. Людзі тут таксама і таму, што сёння нядзеля, а значыць – святочная служба. Жанчыны ў спадніцах і яркіх хустках выходзяць з блаіктнага будынку царквы.

Тое, што гарадэнцы – людзі цікавыя, гумарныя, можна пабачыць на кожным кроку. Вось клічуць да сцэны самага старога ганчара – Макара Шэлеста, а ён усё не ідзе.
– А дэ Макар? – чую з-за спіны.
– А Макар горшкі прадае!

Між іншым, спадару Макару мінуў ужо 81 год. А ён дагэтуль "нагамі круціць" – лепіць гаршкі.

# Характарыстыка садавіны і ягадаў

## Расшыфроўка тэста са стар. 87

Тэкст: Валянціна Каржэвіч
Ілюстрацыі: Іна Анікеева



### Апельсіны

Як правіла, “Апельсіны” – асобы, скіраваныя на любоў і каханне. Яны не могуць існаваць без пастаяннай увагі з боку людзей, на фоне якіх прызвычаіліся вылучацца сваёй неардынарнасцю.
“Апельсіны” літаральна зараджаныя энергіяй, дзень і ноч нешта ствараюць, ані секунды не сядзяць на месцы.
Што тычыцца адносінаў з супрацьлеглым полам, яны здольныя закахаць у сябе за адну хвіліну, прыемна правесці час з прадметам сваёй увагі і гэтак жа хутка развітацца з ім.



### Грушы

“Грушы” паводле сваіх уласцівасцяў вялікія аптымісты. Яны хутка і лёгка сыходзяцца з людзьмі, якім даспадобы жыццялюбства і незгасальнае пачуццё гумару гэтай садавіны. З “Грушамі” заўсёды весела і ўтульна. Вакол іх жыццё віруе, яны цудоўныя сябры, якія заўсёды прыйдуць на дапамогу ў цяжкую хвіліну.



## Яблыкі

“Яблыкі” – буйныя кансерватары. Навінкі тэхнічнага прагрэсу не для іх. Сваё жыццё праводзяць па суседстве з антыкварыятам і проста са старымі рэчамі, у якіх, паводле меркавання “Яблыкаў”, захоўваецца душа. А ў адносінах з людзьмі яны прытрымліваюцца прынцыпу, што адзін стары сябар лепшы за новыя два.



## Трускалкі

Рэўнасць – вось пачуццё, якое характаразуе “Трускалкі”. Ім падабаюцца вялікія і шумныя кампаніі, вясёлыя вечарыны і святы. Яны часта з’яўляюцца завадатарамі ў любой кампаніі. Але калі раптам іх другой палове прыйдзе ў галаву з кім-небудзь пакакетнічаць, скандалу не абмінуць.



## Чарэшня

Душэўная мяккасць і дабрыня адрозніваюць чалавека-“Чарэшню”. Гэта сапраўдны філантроп, які можа шчыра і аддана дапамагаць людзям вакол, дарыць ім сваю любоў і пяшчоту. Такія людзі па-дзіцячы наіўныя і мілыя, а таксама любяць свавольствы і сюрпрызы.

# Jeden
# Dwa
# Trzy

*У кожным нумары ALOVAK дзеліцца сваімі простымі ідэямі, што паляпшаюць жыццё.*
*Што мы маем на ўвазе, калі гаворым пра такія ідэі?*
*Ды ўсё што заўгодна! Абы толькі гэта:*
*- выклікала ўсмешку;*
*- дапамагала забывацца пра клопаты і праблемы хаця б на хвіліну;*
*- давала магчымасць прынесці радасць сабе і людзям вакол.*

## Простая ідэя
## НУМАР АДЗІН ►

Ідэя: Ірына Бельская
Тэкст: Ксенія Сасніна
Фота: Кацярына Буто

Нашыя любімыя кеды, паўкеды і тапачкі – простыя, зручныя, універсальныя. Здавалася б, што тут яшчэ прыдумаць. А вось і ёсць што: проста адрэжце альбо падвярніце іх “язычкі”! Паэксперыментуйце з рознай шнуроўкай і здзіўляйце ўсіх сваім абуткам.

**Парада.** *Калі вы будзеце адразаць “язычок”, то вы можаце падвярнуць частку, што засталася, на сподні бок і падшыць яе патаемным швом.*

# Простая ідэя
# НУМАР ДВА ►

Ідэя, тэкст, фота: Наталля Раеўская
instagram.com/salvia_field

Шкляначкі з букетам кветак, каляровым пяском альбо дэкаратыўнымі каменьчыкамі радуюць вока, дык чаму б не ўпрыгожыць іх самім? Для гэтага нам спатрэбяцца ніткі “Ірыс”, кручок для вязання 1,5 мм, карункі і клей. Усё робім паступова: спачатку вяжам пляскатае роўнае кола, роўнае дыяметру нашай шкляначкі. Далей правязваем яшчэ два рады слупкоў з накідам, пераходзім на ўзор “філейная сетка” і так вяжам да месца звужэння шклянкі перад рыльцам. Нацягваем на шкляначку нашую абвязку і правязваем яшчэ некалькі радкоў, паступова памяншаючы колькасць слупкоў у кожным з іх. Ля рыльца нітку абрываем, замацоўваем вынік іголкай і прыклейваем кавалачак карункаў на абадок шклянкі.

Прыгажосць гатовая!

Простая ідэя
# НУМАР ТРЫ ▶

Ідэя: Ксенія Сасніна, Ірына Бельская
Тэкст: Ксенія Сасніна
Фота: Ірына Бельская

Вось і скончылася лета, і ад гэтага становіцца крыху сумна. Хочацца, каб самыя яркія падзеі засталіся ў памяці назаўжды. Для гэтага мы прапаноўваем заманіць лета ў пастку! Вазьміце рамку са шклом падыходнага вам памеру. У якасці фону выкарыстайце каляровую паперу альбо пафарбуйце шчыльны аркуш белай паперы ў патрэбны колер. На гэты фон наклейце ўсе свае ўспаміны і згадкі пра лета, падпішыце ўсё. Што пакінула лета на памяць пра сябе? Гэта могуць быць квіткі ў кіно, нарэзкі з геаграфічных мапаў, засушаныя пялёсткі, турыстычныя буклеты... усё, што захочаце! Цікава рабіць такія рамкі тэматычнымі (прыродныя, гарадскія, турыстычныя і г.д.)

**Парада.** *Калі жадаеце наклейваць аб'ёмныя прадметы, знайдзіце глыбокую рамку альбо рамку для трохмерных карцін.*

# ALOVAK offline:
## бавім час разам

Тэкст: Ксенія Сасніна
Фота: Кацярына Буто, Яна Яфрэмава, Марыя Сонгаль

*Сустрэчы сяброў ALOVAK ужо сталі добрай традыцыяй, і мы гэтаму вельмі рады! Нас натхняюць агеньчыкі ў вашых вачах і імкненне навучыцца чаму-небудзь новаму на нашых майстар-класах. А колькі яшчэ цікавага чакае наперадзе!*

### УПРЫГАЖЭННІ З КАРЫ

Прадметам шостага нумара ALOVAK была кара дрэва, таму на нашым майстар-класе, што адбыўся 30 чэрвеня, мы стварaлі ўпрыгажэнні менавіта з гэтага цудоўнага прыроднага матэрыялу. Колькі непаўторных кулонаў, брошак і завушніц з'явілася ў гэты дзень! Праводзіла майстар-клас мастачка і дызайнер Ірына Бельская. Біолаг Ірына Агейчык распавяла пра цікавыя ўласцівасці кары, а таксама прыгатавала найсмачнейшую травяную гарбату па сваім рэцэпце. Сустрэча прайшла ва ўтульным тайм-клубе "Сямейны падворак" і пакінула пасля сябе толькі прыемныя ўспаміны.

## СУСТРЭЧА КАМАНДЫ ALOVAK

20 ліпеня ў сценах сяброўскага нам тайм-клуба “Сямейны падворак” амаль поўным складам сустрэлася нашая каманда: аўтары, ілюстратары і фатографы часопіса. На сустрэчы мы распавядалі пра свае захапленні, абменьваліся падарункамі і крэатывілі пры дапамозе гульні, што была прыдумана стваральнікамі ALOVAK. Сустрэча прайшла вельмі цёпла, была напоўнена прыемным настроем і вялікай колькасцю ўсмешак. Дарэчы, падчас сустрэчы мы сумясцілі прыемнае з карысным, прыдумаўшы велізарную колькасць тэмаў і ідэй, якія абавязкова будуць рэалізаваныя ў наступных нумарах часопіса. Сачыце за навінамі!

## ЯГАДНАЯ АКВАРЭЛЬ

30 ліпеня ў прасторы ArtLab адбыўся акварэльны майстар-клас праекту #майстэрняALOVAK. Ілюстратар Дар'я Уласава правяла экскурс у гісторыю батанічнай ілюстрацыі і дапамагла ўдзельнікам сустрэчы стварыць уласныя творы ягадна-акварэльнага мастацтва. У межах майстар-класу ладзіліся прафесійныя фота- і відэаздымка, таксама ў праграме былі духмяная гарбата ад "Фито-бар", смачныя ягадныя пачастункі і душэўныя размовы. Усе ўдзельнікі сустрэчы атрымалі набор якасных матэрыялаў, якія выкарыстоўваліся падчас правядзення майстар-класу, а таксама сертыфікат на зніжку ў краме "Художник".

## ІНФАРМАЦЫЙНАЯ ПАДТРЫМКА

Наш часопіс з радасцю падтрымлівае цікавыя творчыя падзеі. За мінулыя некалькі месяцаў ALOVAK стаў інфармацыйным партнёрам Мінскага тыдня дызайну, маркета беларускай дызайнерскай мэблі і прадметаў інтэр’еру “Канапа Маркет”, фестывалю прыродных узораў (мандал) у Цэнтральным батанічным садзе. На нашых старонках у Facebook і Вконтакте можна знайсці выдатныя фотасправаздачы з гэтых мерапрыемстваў ад Яны Яфрэмавай і Марыі Сонгаль.
Stay tuned!

# ШТО ВАС НАТХНЯЕ?

*Гэтае пытанне мы задалі тым, хто ўдзельнічаў у стварэнні часопіса. Глядзіце, якія разнастайныя адказы мы атрымалі!*

**Ксенія Кагуашвілі, майстар:**
*Натхняюся проста ад таго, што жыву, дыхаю, хаджу па зямлі, гляджу на свой Свет, дакранаюся да яго... Вандрую, знаёмлюся з новымі месцамі. Натхненне можа прыйсці ў адзін дзень: грымне ўсёй сваёй сілай ад аднаго позірку на што-небудзь. Люблю натхняцца людзьмі, іх працай і майстэрствам.*

**Наталля Раеўская, майстар:**
*Натхняюць простыя рэчы: у першую чаргу, вядома, мая сям'я, муж, тры сыны і кот па мянушцы Пранік, а яшчэ шпацыры па лесе, маленькія вандроўкі па сваёй краіне і ціхія ўтульныя сямейныя вечары.*

**Святлана Варашылава, фатограф:**
*Мяне натхняюць шчырыя непадробныя пачуцці людзей, мастацтва і прыгажосць прыроды.*

**Валянціна Каржэвіч, псіхолаг:**
*Натхняе само жыццё ва ўсіх яго праявах, магчымасць вандраваць, тварыць і бачыць прыгожае, сустракацца з цікавымі людзьмі, а таксама адчуваць тое, што мая прафесія патрэбна людзям.*

**Святлана Лапіна, дызайнер:**

*Я мама цудоўнага сына. Менавіта ён натхняе мяне на творчасць, знаёміць наноў з той чыстай простай прыгажосцю, якая надакучыла даросламу позірку. Дзякуючы яму, я наноў бачу свет вачамі дзіця і веру ў цуды. Таму, напэўна, мне так палюбіліся ўпрыгожанні з ювелірнай смалы. Пры яе дапамозе можна спыніць імгненне, насалоджвацца прыгажосцю кветкі доўгія гады, адчуць подых лета зімнім вечарам. Ці не гэта ёсць цуд?*

**Наталля Хіжа, майстар:**

*Я візуал і мяне натхняе ўсё прыгожае! Вельмі часта праглядаю Pinterest, складаю там падборкі таго, што мяне зачапіла. Але натхненне паўсюль, не толькі ў Інтэрнэце! Праглядаючы часопісы і кнігі, атрымліваючы прыгожыя паштоўкі, проста шпацыруючы па вуліцы, можна заўважыць нейкую дэталь, якая потым пераўтворыцца ў новую ідэю! Яшчэ мяне вельмі натхняюць творчыя людзі, гледзячы на іх працы, я сама хачу імкнуцца далей, пазнаваць і спрабаваць большае.*

**Іна Анікеева, ілюстратар:**

*Мяне натхняе чысты аркуш паперы перада мной, пах лавандавага алею, вечары ў адзіноце, духмяная гарбата з карыцай, усмешка любімага чалавека і цёплыя словы ад самай блізкай сяброўкі.*

Фота: Ірына Бельская



**ДА СУСТРЭЧЫ!**

**наш сайт:**

alovakmag.by

**мы ў сацыяльных сетках:**

facebook.com/alovakmag

vk.com/alovakmag

**мы ў інстаграме:**

@alovakmag